№ 61 (3802)

6 жніўня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АНОНС



*Сяргей НАВУМЧЫК*

## Дзевяноста першы

*Радыё Свабода выпусціла кнігу Сяргея Навумчыка “Дзевяноста першы”. З гэтага нумара мы пачынаем публікацыю асобных раздзелаў кнігі. Спачатку — слова аўтару.*

**Кніга, як гэта ўжо бачна з загалоўка, прысвечана году, які вызначыў лёс Беларусі, — 1991-му.**

**Часам кажуць, што ўдзельнік падзей не можа быць аб’ектыўным, але я перакананы, што чым больш асабістага погляду аўтара, тым большая гістарычная (а часам і літаратурная) каштоўнасць тэксту. Бо даць храналогію падзей, прааналізаваць дакументы можа які заўгодна навуковец. Да таго ж, калі казаць пра падзеі ў Авальнай зале (а лёс Беларусі ў 1991-м вырашаўся менавіта ў ёй), дык, як я пераканаўся, стэнаграма дае добра калі 30 працэнтаў інфармацыі пра тое, што адбывалася ў Вярхоўным Савеце.**

**Ну вось класічны прыклад: жніеўньская сесія, Дземянцей дае слова дэпутатам аднаму за другім, потым абвяшчае перапынак на паўгадзіны, а пасля перапынку — падае ў адстаўку. У чытача ўзнікае слушнае пытанне: а чаго раптам? Што такога надзвычайнага здарылася? А здарылася (і гэтага няма ў стэнаграме) тое, што да трыбуны быў сунуўся 1-ы сакратар ЦК КПБ Малафееў, які падтрымаў путчыстаў, а мы, дэпутаты Апазіцыі і Дэмклуба, сагналі яго, і сышоў Малафееў, як, прабачце, пабіты сабака, і гэта быў для дэпутатаў-камуністаў вялізны псіхалагічны ўдар: з 1-м сакратаром ЦК на іх памяці так не абыходзіліся.**

**Перапынак быў не паўгадзіны, а больш за гадзіну, у гэты час прайшоў Прэзідыум ВС, на якім Дземянцей зразумеў, што трэба сыходзіць. А праз дзверы Авальнай залы даносіўся голас шматтысячнага натоўпу на плошчы, які падтрымліваў дэпутатаў БНФ у нашым патрабаванні Незалежнасці.**

**Вось такога ў стэнаграмах няма. Тое-сёе можна знайсці ў тагачасных газетных публікацыях, але і там не будзе матывацыі нашых учынкаў, тлумачэння тактыкі, расповеду пра кулуарныя перамовы (а яны таксама ішлі)...**

**Перада мной як аўтарам былі чатыры мэты: напісаць так, каб кніжка лёгка чыталася, рэканструяваць уласныя адчуванні, выказаць ацэнку падзей і падабраць фрагменты стэнаграм і дакументаў. Калі першыя тры мэты даволі лёгка сумясціць паміж сабой, дык чацвёртая вельмі цяжка спалучаецца з першай. Бо мова дакументаў заўсёды казённая. Але абысціся без дакументаў я не мог яшчэ і таму, што сённяшняму чытачу (асабліва моладзі) яны практычна невядомыя — гэты перыяд што афіцыйнай гістарыяграфіяй, што дзяржаўнымі СМІ альбо замоўчваецца, альбо скажаецца. І мне даводзілася тлумачыць тое, што, калі б я пісаў кніжку ў дэмакратычнай Беларусі, дзе ўлада паважала б сваю гісторыю і таму яе ведаў бы кожны школьнік, тлумачыць не было б патрэбы. Але ў цяперашніх умовах такая неабходнасць ёсць.**

**Я ўдзячны за дапамогу рэдактару кнігі Уладзіміру Арлову, які, нягледзячы на наша сяброўства ўжо больш як чвэрць стагоддзя, прынцыпова выказваў свае заўвагі (а зрэшты, гэта і ёсць рыса сапраўднага сяброўства), і мастаку Генадзю Мацуру, які афармляў кнігу. У кніжцы дзясяткі фотаздымкаў, і за выключэннем аднаго-двух — усе яны 1991 года, пераважная большасць зроблена Уладзімірам Кармілкіным, фоталетапісцам БНФ, які заўчасна пайшоў у лепшы свет. Ну і, канешне, я даю копіі дакументаў са свайго архіва, які ў свой час жонцы і маім сябрам удалося вывезці з Беларусі.**

**Кніга пачынаецца з падзей у Літве, куды мы групай дэпутатаў паехалі адразу пасля агрэсіі савецкіх войскаў у студзені, і сканчваецца эпізодам у Вестмінсцерскім абацтве ў Лондане, дзе ў адзін з апошніх дзён таго года нас з Аляксандрам Лукашуком пасадзілі ў час малітвы побач з паважнай дамай, якая аказалася Маргарэт Тэтчар. Але, канешне, большая частка кнігі — падзеі ў Беларусі: візіт Гарбачова, так званы рэферэндум пра захаванне СССР, шматтысячны страйк, змаганне за праўду пра Чарнобыль, першыя тыдні і месяцы маладой беларускай дзяржавы, прыняцце бел-чырвона-белага сцяга і герба “Пагоня” ў якасці дзяржаўных сімвалаў, спроба вярнуць сталіцы гістарычную назву “Менск” і спроба прыняць іншы гімн... Асобная частка прысвечана Васілю Уладзіміравічу Быкаву.**

**Раздзелы, якія друкуе “Народная Воля”, прысвечаны самаму галоўнаму і драматычнаму месяцу таго года — жніўню. А менавіта — сітуацыі вакол так званай “саюзнай дамовы”, супраціву праімперскаму путчу ў Маскве і гістарычнай сесіі Вярхоўнага Савета, на якой мы дамагліся Незалежнасці.**

**Калі я кажу “мы” — маю на ўвазе не толькі дэпутатаў, але і актывістаў БНФ, тыя дзясяткі тысяч людзей і на плошчы ў Мінску, і ў рэгіёнах, пра якіх я таксама пішу і якія стварылі незалежную Беларусь.**

(Працяг на 7—8 стар.)

САЛІДАРНАСЦЬ



*Два гады мінула з дня арышту вядомага беларускага праваабаронцы **Алеся Бяляцкага**.*

*Некалькі дзён таму еўракамісар **Штэфан Фюле** сказаў, што спадзяецца хутка ўбачыць Бяляцкага на свабодзе.*

*Такімі спадзяваннямі жыве і ўся дэмакратычная грамадскасць Беларусі.*

*Свабоду ўсім палітзняволеным!*







**У шэрагу краін свету 4 жніўня прайшлі акцыі ў рамках Міжнароднага дня салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі.**

ЕСТЬ ВОПРОС!

## Ждать ли пенсионерам прибавки к пенсии?

**С 1 августа в Беларуси увеличились социальные и минимальные пенсии, размер которых зависит от бюджета прожиточного минимума. А будет ли произведен перерасчет трудовых пенсий по возрасту, которые привязаны к средней зарплате по стране?**

Эксперты убеждены: для повышения трудовых пенсий есть все законные основания. Дело в том, что последнее июльское повышение было внеочередным. Если бы оно не случилось, в августе пенсии должны были бы пересчитать согласно статье 70 Закона “О пенсионном обеспечении”, и пенсионеры могли бы получить прибавку гораздо большую — как минимум пенсии выросли бы на 20 процентов.

В этой статье закона черным по белому написано: “*Перерасчет пенсий в связи с ростом средней заработной платы работников в республике осуществляется, если ее рост в истекшем квартале по сравнению с величиной средней заработной платы работников в республике**, примененной при предыдущем перерасчете пенсий, составил более 15 процентов”.*** Так вот, последний раз перерасчет трудовых пенсий состоялся в ноябре 2012 года. За период с ноября 2012 года по июнь 2013-го зарплаты в стране выросли приблизительно на 22 процента. Согласно официальной статистике, средняя зарплата работников бюджетных организаций в октябре 2012 года составляла 3 миллиона 178 тысяч, а в июне 2013-го — 3 миллиона 888 тысяч рублей.

Но власти придумали хитрый ход. Не дожидаясь официальных данных о росте заработной платы во II квартале 2013 года, они объявили о повышении пенсий на 10,2 процента с 1 июля. Вот и возникает вопрос: дождутся ли пенсионеры еще одного повышения пенсий, чтобы в сумме оно составило законные 22 процента?

В Министерстве труда и соцзащиты ответа на этот вопрос мы не получили. Припасенное на все случаи жизни “Без комментариев” на этот раз чиновники заменили фразой: “Вы негосударственная пресса, поэтому комментировать ничего не будем”.

К слову, подобный “казус” с перерасчетом пенсий в современной Беларуси — не первый. Например, в 2008—2009 годах пенсионерам больше года не повышали пенсии, а потом А.Лукашенко подписал указ о повышении на 9,5 процента, хотя согласно закону пенсии должны были вырасти на 20 процентов.

К слову, сегодня в Беларуси размер средней пенсии по возрасту составляет 2 миллиона 170 тысяч рублей, или 244 доллара по официальному курсу.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ПАД ГРАДУСАМ

## На гэтым тыдні да +35!

Спякотнае надвор’е захаваецца да выхадных.

У **аўторак** ападкаў не чакаецца, толькі ў асобных раёнах Віцебскай вобласці могуць прайсці кароткачасовыя дажджы, магчымы навальніцы. Тэмпература паветра ноччу плюс 13—19°С, днём 25—29°С, па паўднёвым захадзе да плюс 30—31°С.

У **сераду** без істотных ападкаў. Тэмпература паветра ноччу плюс 15—19°С, днём 26—31°С, па паўднёвым захадзе — да плюс 33°С.

У **чацвер** таксама без ападкаў. Тэмпература паветра ноччу плюс 15—21°С, днём 27—34°С.

У **пятніцу** чакаецца пераважна без ападкаў, днём па паўночна-заходніх раёнах магчымы кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ноччу плюс 15—22°С, днём 28—33°С, па поўдні — да плюс 35°С.

У выхадныя дні надвор’е пачне мяняцца.

## Толькі самі беларусы могуць захаваць сваю нацыю...

### Выніковая рэзалюцыя дэлегатаў Шостага з’езда беларусаў свету

**Шосты раз беларусы свету сабраліся, каб абмеркаваць надзённыя праблемы развіцця сваёй нацыі і дзяржавы. Наша пазіцыя ясна акрэслена: беларуская дзяржаўнасць мае больш як 1000-гадовую гісторыю, і гэта дазваляе нам упэўнена сцвярджаць, што Беларусь была, ёсць і будзе!**

**Мы, удзельнікі Шостага з’езда беларусаў свету, незалежна ад месца пражывання, веравызнання і палітычных поглядаў, падводзячы вынікі абмеркавання выклікаў, што ставіць перад беларускай нацыяй эпоха глабалізацыі, заяўляем наступнае.**

**Толькі самі беларусы могуць захаваць сваю нацыю, умацаваць і развіць нацыянальную дзяржаву.**

**Нацыянальная ідэнтычнасць — апірышча развіцця беларускага народа. Яе ўмацаванне магчыма толькі супольнымі дзеяннямі беларусаў у Беларусі і замежжы.**

**Мова — найважнейшая аснова нацыянальнай самабытнасці, галоўны фактар захавання беларускай нацыі і дзяржавы. На жаль, сённяшняя палітыка ўлад у дачыненні да мовы карэннай нацыі вядзе да змяншэння яе ролі ў грамадскім, палітычным і культурным жыцці. Мы рашуча выказваемся за строгае выкананне заканадаўства пра дзяржаўны статус беларускай мовы і прыняцце стратэгічнай праграмы яе развіцця і выкарыстання ва ўсіх сферах жыцця.**

**Нацыянальная самасвядомасць і нацыянальная памяць наўпрост звязаны з гістарычнай нацыянальнай сімволікай. Сімвалы беларускага народа — герб “Пагоня” і бел-чырвона-белы сцяг — дадзены нам продкамі, і ніхто не мае права забараняць або адмяняць іх. Дэлегаты з’езда выказваюцца за тое, каб бел-чырвона-белы сцяг, як і старажытны герб “Пагоня”, былі ўключаны ў пералік нацыянальна-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь.**

**Адзначаючы значныя дасягненні ў адраджэнні нацыянальна-культурнай спадчыны за гады незалежнасці нашай дзяржавы, звяртаем увагу Урада Рэспублікі Беларусь на неабходнасць уважліва ставіцца да захавання ўсіх гістарычна-культурных каштоўнасцяў роднай зямлі, не дапускаць выключэння іх з Дзяржаўнага спісу пад ціскам інтарэсаў антыбеларускіх сіл, прадстаўнікоў кампрадорскага чынавенства ці новай буржуазіі.**

**Звяртаем увагу кіраўніцтва дзяржавы на неабходнасць у найбліжэйшы час стварыць заканадаўчую і нарматыўна-прававую базу для працы з суайчыннікамі за мяжой, што, несумненна, паспрыяе росквіту беларускай справы на бацькаўшчыне і ва ўсім свеце.**

**Заклікаем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Урад і Нацыянальны сход улічыць гэтыя прапановы.**

***Шосты з’езд беларусаў свету.***
***МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”.***
***23—24 ліпеня 2013 г.***

*Мінск.*

АФІЦЫЙНА

## Каму грошай не даваць?

*На нарадзе 5 жніўня Аляксандр Лукашэнка даручыў за тры бліжэйшыя месяцы падрыхтаваць праграму рэформы айчыннай навукі.*

*“Плаціць шалёных грошай з 1 студзеня мы больш нікому не будзем,* — заявіў Аляксандр Лукашэнка, *— у тым ліку навукоўцам. Вучоныя — разумныя людзі, яны павінны самі зарабіць і на сябе, і на дзяржаву”.*

Падобна на тое, што зараз рубам пастаўлена пытанне аб існаванні ў краіне фундаментальнай навукі. *“Пытанне ў тым, наколькі нам патрэбны фундаментальныя даследаванні і наколькі мы будзем паспяховымі, займаючыся тымі ці іншымі фундаментальнымі накірункамі. Я гляджу на гэта прагматычна, каб не выкідваць грошы на вецер”,* — сказаў кіраўнік дзяржавы.

Нагадаем, што нідзе ў свеце фундаментальная навука не прыносіць прамых дывідэндаў. Але менавіта на аснове распрацовак навукоўцаў-тэарэтыкаў робіцца магчымым навукова-тэхнічны прагрэс і з’яўленне самых сучасных прыкладных распрацовак. Толькі якімі б разумнымі беларускія вучоныя ні былі, растлумачыць гэта тым, хто ў нашай краіне дзеліць грошы, яны не могуць.

Праграма рэфармавання беларускай навукі павінна быць зацверджана ў лістападзе. Аляксандр Лукашэнка паабяцаў, што яе абмеркаванне будзе праходзіць з удзелам шырокага кола прадстаўнікоў навуковай супольнасці.

БЕСПРЕДЕЛ

## Конвейер по производству... бомжей

*Наше социально ориентированное государство готово сделать бомжами тысячи белорусов. Судебные процессы по выселению людей из квартир, в которых они прожили 20—30 лет, поставлены на конвейер. Как работает этот конвейер?*

***Об этом мы беседуем с руководителем общественной организации “Центр по правам человека” Галиной ЛЁВИНОЙ.***

— Белорусские суды сейчас активно выселяют из служебных квартир бывших членов семей тех, кто когда-то это жилье получал. Допустим, выделяли квартиру мужу. Причем, выделяли не ему лично, а на всю семью. Было это 20—30 лет назад, человек отработал десять лет в организации, которая давала жилье, получил право на его приватизацию. Однако шли годы. Брак распался, муж уехал, умер, оказался в местах заключения — жизнь есть жизнь... И вот теперь тех, кто остался жить в таких квартирах, бывших членов семьи, выселяют.

При этом все старательно делают вид, что так положено по закону. Хотя данные правоотношения возникли не сегодня, они возникли, когда действовал Жилищный кодекс в редакции 1983 года. И в нем черным по белому было написано: наниматель, члены его семьи и бывшие члены семьи, оставшиеся проживать в квартире, имеют равные права и обязанности. Иными словами, если нанимателю закон дает право, отработав 10 лет, приватизировать служебную квартиру, то такое же право имеют и его дети, и его жена, пусть даже бывшая.

Однако с 2006 года действует 565-й указ президента, где применен иной подход — жить в служебных квартирах и приватизировать их могут только наниматели.

Хорошо. Появился указ — появились новые правила, которые распространяются на квартиры, полученные после вступления этого документа в силу. Но квартиры, выделенные ранее, под эти правила подпадать не могут.

Нормативный правовой акт не имеет обратной силы, то есть не распространяет свое действие на отношения, возникшие до его вступления в силу, за исключением случаев, когда он смягчает или отменяет ответственность граждан или каким-то иным образом улучшает положение людей.

И это — правовая аксиома.

В итоге людей не выселяли, так как это было бы незаконным, но и приватизировать квартиры не позволяли, так как это противоречило указу. Ситуация подвисла.

**— Однако с тех пор был принят еще и новый Жилищный кодекс. Как он регулирует этот вопрос?**

— В этой части Кодекс практически повторил президентский указ и не разрубил, а, наоборот, затянул узел проблем. Хотя Кодекс, действительно, содержит положение, согласно которому обратной силы он иметь не может, это положение игнорируется. Более того, мы уже имеем случаи, когда суды первой инстанции выносили решения в пользу людей, а вышестоящие — либо отправляли дело на новое рассмотрение, либо принимали решение о выселении. Но самое худшее, что даже выигранный процесс — это на самом деле не победа. Люди счастливы, аплодируют. Но...

Даже если суд принимает решение человека не выселять (что нечасто, но случается), дальше начинает работать другая схема. Гражданин ведь должен как-то оформить свое проживание в квартире. То есть он должен подписать договор. Договор, естественно, срочный, заключается, как правило, на три года. А дальше что?.. Через три года человека все равно выселят, только уже на абсолютно законных основаниях. И получается, что он сам согласился с таким решением, сам добровольно поставил под ним подпись.

Конечно, если рассуждать чисто теоретически, то можно говорить: “Пусть хотя бы так! Зато у человека появляется три года, чтобы как-то решить квартирный вопрос, например, построить другое жилье”. Только в действительности ничего они не построят. Потому что в этой ужасной ситуации оказались пенсионеры и люди предпенсионного возраста. Где и как они смогут заработать деньги на новую квартиру? Да и кто вообще в нашей стране за короткий срок в состоянии заработать такие суммы?

**— Вы можете привести типичный пример, иллюстрирующий эту ситуацию?**

— Ну, к примеру, дело Елены Николаевны Зарубицкой. Ее бывший муж получал служебную квартиру от ЖРЭО Первомайского района, более 10 лет проработал в этой организации электромонтером. Потом семья распалась, бывшего мужа даже посадили за неуплату алиментов, женщина одна растила ребенка, он прижился в какой-то деревне... Шли годы, и сейчас ЖРЭО решило квартиру забрать. Суд Первомайского района Минска встал на сторону Елены Николаевны — не выселять. Однако городской суд это решение отменил и направил дело на новое рассмотрение.

Правда, у Елены Николаевны дочь уже взрослая. Однако есть случаи, когда выселяют семьи с маленькими детьми (только это уже не дети, а внуки прежних нанимателей). И органы опеки на это никак не реагируют, они даже не всегда присылают своих представителей на такие суды. Хотя, повторяю, все эти действия по выселению людей незаконны. Потому что закон обратной силы иметь не может, к тому же эти правоотношения возникли так давно, что сроки исковой давности элементарно прошли.

**— Тем не менее при молчаливом согласии всех, кто уполномочен в нашей стране следить за соблюдением прав граждан, людей выселяют. Хотя в Беларуси, в том числе во власти, в судах, много квалифицированных юристов. Почему они этого не видят?**

(Окончание на 2-й стр.)

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Застаецца за кратамі

У мінулую нядзелю ў мінскім касцёле Найсвяцейшай Панны Марыі перад пачаткам набажэнства, прызначанага на 10 раніцы, зачытваліся імёны тых, за каго вернікі прасілі маліцца. Імя ксяндза Уладзіслава Лазара гучала не адзін раз. Такая ж сітуацыя была і ў іншых касцёлах. Гэта вернікі замаўляюць імшу за арыштаванага ксяндза Уладзіслава Лазара.

Пасля заканчэння службы людзі запытвалі адзін у аднаго, ці ёсць якія навіны, і задаваліся рытарычным пытаннем: чаму маўчыць Касцёл?

"За што так абышліся з нашым братам?!" — гэтае пытанне гучыць ледзь не праз кожныя пяць хвілін нашай размовы з сястрой арыштаванага ксяндза. Толькі праз два тыдні пасля знікнення брата яго сёстры **Яна** і **Ірына** даведаліся, што ён увогуле жывы. І што трымаюць яго ў следчым ізалятары КДБ.

Яніна ўзгадвае тыя трывожныя дні.

*— Уладзя быў у нас 30 мая. Правёў імшу ў Бярэзінскім касцёле і паехаў у Барысаў. Мама прасіла яго пераначаваць дома, але ён сказаў, што паедзе, бо шмат спраў. Сказаў, што ў той дзень тэлефанаваць не будзе, бо прыедзе позна, і таму патэлефануе на наступны дзень раніцай. Раніцай званкоў няма... Мы тэлефануем — ён адключаны. А мама ўсё набірае і набірае... А ў яе ціск падвышаны, сур'ёзныя праблемы са здароўем. Тады мы ўжо ёй пачынаем хлусіць, што гэта ён вельмі заняты і проста не можа тэлефон уключыць, што ён папярэджваў...*

*Сама я цішком пазваніла ксяндзу ў Бярэзінскім, каб хоць што-небудзь даведацца. Ён адказаў, што нічога не ведае. І куды ні тэлефанавала — адзін адказ: "Нічога не ведаем". Нарэшце праз тыдзень ужо іншага выйсця не было, і я паехала ў Маладзечна ў міліцыю. Там усё запісалі: калі выйшаў з дома, у якой вопратцы, прыкметы, колер вачэй, валасоў... Вы не ўяўляеце, што я тады перажыла. Але прыехала да бацькоў і кажу, што ўсё добра, што не трэба хвалявацца, ён у Польшчы і хутка сам патэлефануе. Бачу, што мама не надта верыць, усё запытвае: "Ніколі ж раней не было, каб ён за столькі часу не пазваніў. Ён жа кожны дзень тэлефануе. Нешта здарылася".*

*Увечары сапраўды мне пазванілі і сказалі: "Ваш брат жывы, ён у КДБ". І больш ніякіх званкоў, ды і нумар аказаўся нейкі такі, што на яго не пазваніць. Тады я зноў еду ў міліцыю ў Маладзечна: каб усё высветліць, хто званіў, каб спраўдзіць інфармацыю. Там сказалі, што нічога не ведаюць, але паспрабуюць даведацца. Праз пару дзён зноў званок: "Скажыце сваёй маці, што сын ёй будзе званіць. Ёй трэба быць у 11.00 каля тэлефона". І адразу паклалі трубку, нават не далі мне нічога спытаць. І, сапраўды, Уладзіслаў пазваніў і сказаў кароткую фразу: "Мама, я жывы. Маліся, трэба будаваць касцёл..." І ўсё.*

*Я потым таксама званіла па тым нумары, а мне адказваюць: "Гэта КДБ". Запытваю: "Хто вы? Скажыце мне, калі ласка, я хачу спытаць пра свайго брата..." А там скідваюць званок і ўсё. Гэты нумар ужо адказваў, але што з таго толку...*

*Ведаеце, мы з сястрой усяляк думалі. Можа, яго дзе трымаюць і хочуць, каб мы заплацілі выкуп. У мяне ж з грашыма не надта: працую ў ліцэйцы ў Бярэзінскім, мы там робім дэталі да прадукцыі "Атланта". Працуем у начныя змены па тры ночы запар, а заробак невялікі — 2 мільёны 700 тысяч. Але калі ўжо такая сітуацыя, дык што рабіць? Усё з сябе здымеш ды аддасі.*

*Карацей, мы проста спаць не маглі, бо розныя думкі ў галаву лезлі. І тады паехалі мы з сястрой Ірай у касцёл да арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча. Ён пацвердзіў, што сапраўды Уладзіслаў знаходзіцца ў КДБ. Сказаў, што да яго нават ксяндза не пусцілі. А ён жа клятву даваў, што імшу будзе правіць штодня! Ды куды там, не дазволілі нават малітоўнік перадаць. Тадэвуш Кандрусевіч даў нам і тэлефон адваката, але той толькі сказаў, што наш брат жывы. Вось і ўсё, але нам і ад гэтай вестачкі лягчэй стала. Цяпер хоць ведаем, дзе ён. Яшчэ арцыбіскуп паведаміў, што напісаў просьбу, каб яму дазволілі сустрэцца з шэфам КДБ. Але ніякага адказу няма...*

**— А перадачу дазволілі яму перадаць?**

*— Я прыйшла ў КДБ 2 чэрвеня. Той чалавек, які прымае перадачы, як толькі я назвала прозвішча, нават не паглядзеўшы ў свой сшытак, сказаў, што брату перадачы забаронены. Давай тады я следчаму званіць. Ён, праўда, сказаў, што перадачу прымуць, і параіў мне зноў ісці туды, але не спяшацца, бо пытанне будзе вырашацца не менш за 20 хвілін. Я вытрымала толькі 15 хвілін. Прыйшла, а той, першы, кажа, што ўсё нармальна. Так што перадала перадачу на 8 кілаграмаў 200 грамаў. І паколькі можна да 30 кілаграмаў, то цяпер будзем новую збіраць.*

*Але я ўсё думаю: Божа, за што ж гэта яму? За што ж гэта ўсё нам? Прыязджалі з парафіі Уладзіслава людзі да нашых бацькоў у вёску, казалі, што пра ўсё даведаліся з інтэрнэту. Высветлілася, што яны таксама яго шукалі, але безвынікова. Адна сям'я з ім сябравала. У іх сын нарадзіўся, і яны шукалі свайго ксяндза, каб пахрысціў маленькага... Столькі людзей пра яго добрыя словы кажуць, яго любяць! А для нас з сястрой згубіць брата — гэта самае балючае, што можа здарыцца. Бацька трымаецца, але я ж бачу, што проста хавае слёзы і толькі маму супакойвае, каб яна не плакала. Але яму цяжка, ён у душы перажывае моцна. Маму ў бальніцу трэба класці, бо цяпер, калі яна пра ўсё даведалася, не вытрымае сэрца...*

*Сябры Уладзіслава кажуць, каб мы прыязджалі ў Мінск столькі, колькі трэба, каб у іх заставаліся начаваць. Я вельмі ўсім удзячная, але нам жа трэба працаваць. Перадалі грошы на адваката, перадалі перадачу, цяпер застаецца толькі маліцца. Уладзіслаў верыць у Бога і служыць Богу. У яго такая моцная вера, што ён вытрымае ўсё. Гэта дакладна. Але мы, сёстры і бацькі нашы, ці вытрымаем — не ведаю...*

Нагадаем, што грамадскасць пра справу ксяндза Уладзіслава Лазара даведалася пасля слоў Аляксандра Лукашэнкі пра тое, што ў спецслужбах злавілі шпіёна, які здаваў нейкую сакрэтную інфармацыю. Не вядома, ці сапраўды арыштаваны хто-небудзь з супрацоўнікаў спецслужбаў, а вось знікненне ксяндза Уладзіслава са словамі кіраўніка дзяржавы звязалі адразу.

Тым часам тэрмін утрымання святара пад вартай падоўжаны яшчэ на месяц. Такім чынам пайшоў трэці месяц утрымання ў следчым ізалятары ксяндза Уладзіслава.

**Любоў ЛУНЁВА.**



Ксёндз Уладзіслаў побач са сваімі сёстрамі Ірынай і Янінай.

## Дасье

Уладзіслаў Лазар з дзяцінства разам са сваімі бацькамі наведваў касцёл. Пасля школы служыў у Печах. Потым — семінарыя ў Гродне і адукацыя за мяжой. У 2007 годзе ксёндз Уладзіслаў з касцёла Найсвяцейшай Дзевы Марыі перайшоў служыць у Мар'іну Горку. Там ён пабудаваў новы будынак касцёла і пачаў будаўніцтва касцёла ў Рудзенску. Сёлета яго перавялі служыць у Барысаў, дзе таксама трэба будаваць новы касцёл.

БЕСПРЕДЕЛ

# Конвейер по производству... бомжей

(Окончание. Начало на 1-й стр.)

— Я могу только высказать свою версию причин такой "слепоты". Когда вышел 565-й указ, то в первой части он обязал исполнительно-распорядительные органы навести порядок в государственном жилищном фонде. Однако за семь лет это сделано не было, нормального учета служебных квартир ни ЖРЭО, ни исполкомы не вели. При этом ни Генпрокуратура, ни Госконтроль на этот бардак не реагировали. В результате государственный жилищный фонд оказался просто разбазарен. Зато сейчас спохватились. Потому что поступило указание найти квартиры под арендное жилье. Но фонда-то уже нет! Вот и решили прикрыться незащищенными простыми людьми.

Я не припомню случая, чтобы из служебных квартир выселяли бывших начальников или их семьи. Эти люди все оформили, все успели, все сделали, проблем не имеют. А вот жильцов квартир, которые выделялись электрикам, дворникам, сантехникам, таскают по судам. Честно говоря, я уже не могу смотреть в глаза этим людям. Ведь что такое в наше время лишить человека жилья?! Для многих это конец света, конец всего.

**— А что прокуроры? Как они смотрят на то, что закон, ухудшающий права людей, применяется задним числом?**

— Да они все заодно, все ссылаются на 565-й указ. Прокуроры просто отсиживаются на таких судах. Я не знаю, в курсе ли *там* (вот там, на самом верху), что сейчас происходит со служебными квартирами, которые люди получили 25—30 лет назад, но это настоящий беспредел.

**— Какой выход вы видите из этой ситуации?**

— Я считаю, что нужно дать людям право приватизировать квартиры на возмездной основе. Никто не просит, чтобы государство отдало их даром, чтобы подарило. Отдайте за деньги, люди будут платить. Только не выгоняйте их в никуда, под забор, на свалки, не делайте из них бомжей.

Однако ни одно ведомство не хочет даже поднимать этот вопрос. Потому что тогда станет очевидным, что того государственного жилищного фонда, который фигурировал в различных отчетах и который сейчас решено превратить в арендное жилье, в реальности просто нет. Станет ясно, что учет должным образом не велся, что очень удобно было исполнительно-распорядительным органам ловить рыбку в этой мутной воде.

И я нисколько не преувеличиваю. На многих судах сейчас выясняется, что документов об отнесении тех или иных квартир к служебным просто нет в наличии. Где-то их потеряли, где-то уничтожили, где-то упорно ищут, но не могут найти... Вот такой был учет и контроль. И можно только представить, сколько квартир "потерялось" в чью-то пользу.

Зато сегодня есть случаи, когда выселяют людей, даже не удосужившись документально подтвердить, что квартиры действительно служебные. Просто парадоксальные ситуации случаются. Судите сами.

По таким искам суд в первую очередь должен установить статус квартиры, чтобы убедиться, что есть предмет спора, что квартира действительно служебная. Но часто суд просто не может этого сделать, так как документов нет.

С другой стороны, истец, прежде чем что-то требовать, должен представить доказательства, подтверждающие права на спорную квартиру. Но он ничего не может подтвердить все по той же причине — документов нет.

Казалось бы, нет доказательств — нет и оснований для иска... Такова логика разрешения споров в рамках правового поля. В реальности же суды просто на все закрывают глаза. Хотя на роль бомжей они обрекают не алкоголиков, не бездельников, не преступников, не людей, которые имеют другое жилье и при этом служебную квартиру тоже хотят оставить за собой. Мы говорим о тех, кто проработал всю свою жизнь, вот только ничего не нажил. А теперь, на старости лет, этих людей оставляют еще и без крыши над головой.

**— И все-таки объясните: почему, живя в служебных квартирах, они не строили собственное жилье?**

— Потому что по закону они имели право на приватизацию занимаемых квартир. Вы, имея квартиру, возьметесь строить еще одну? Особенно если муж умер, или он после развода так "заботился" о детях, что оказался в колонии за неуплату алиментов... Да и вы не министр, а продавец, воспитатель, медсестра — то есть самый обыкновенный человек с самой обыкновенной маленькой зарплатой. В этой ситуации оказались женщины с поломанными судьбами, неудавшейся личной жизнью, матери-одиночки, которые прокормить детей едва могли, не то что построить другое жилье. Более того, чиновники их успокаивали: "Живете и живите, выселить вас никто не может".

**— Вы привели пример Елены Николаевны Зарубицкой, когда суд первой инстанции все эти аргументы признал правомерными и отказался выселять женщину. Чем Минский городской суд мотивировал отмену этого решения?**

— Тем, что при рассмотрении дела были не полностью исследованы факты относительно срока исковой давности.

**— Это что значит? Суд пользовался неправильным календарем?**

— В этих делах пытаются доказать, что сроки исковой давности якобы надо отсчитывать с того момента, когда истец узнал о том, что человек, которому выделялась квартира, в ней не живет. Фактически — с любого дня и года.

**— Хорошо. А в делах по наследству они как считают? С того момента, когда человек умер, или с того момента, когда какой-нибудь троюродный племянник узнал о кончине любимого родственника?.. С таким подходам к срокам исковой давности судебные тяжбы стали бы вечными.**

— Вот в этом-то и суть! Ситуация доводится до абсурда, хотя ее можно решить цивилизованно, с пользой для государства и с учетом интересов людей. Повторяю, надо просто разрешить приватизацию таких квартир. Однако сейчас все делается с иной целью — любой ценой найти фонд под арендное жилье, потому что поступило такое указание.

**— Сколько человек уже собрали вещи и выехали из квартир, в которых прожили не один десяток лет?**

— Пока до этого не дошло, на данный момент мы еще имеем ситуацию судебных войн. Впрочем, уже понятно, что расклад сил не в пользу людей, и никакой цивилизованный выход в рамках существующего законодательства не просматривается.

Например, к нам обратилась женщина-пенсионерка. Ее муж, который получал квартиру, умер. Женщину заставляют освободить помещение. Допустим, случится самое лучшее и мы выиграем суды. Допустим, с ней заключат договор найма жилья даже не на три года, а на десять лет. Но что дальше? Человеку будет 74 года. Куда она пойдет? В дом престарелых?..

А ведь многие сейчас соглашаются и подписывают эти договоры. "Добрые" судьи им даже советуют: "Подавайте встречный иск на заключение договора, и я вынесу решение в вашу пользу". Но договор заключается на три года, после чего человека вышвырнут. То есть он сам кладет голову под топор государства, а суды ему в этом помогают. На что люди рассчитывают, на что надеются, поддаваясь на такие уговоры, я не знаю. Разве только на то, что ситуация как-нибудь рассосется.

Хотя в идеале судьи, усмотрев такую коллизию, должны были приостановить рассмотрение всех подобных дел и обратиться в Верховный суд, а уже тот — в Конституционный суд, чтобы главная судебная инстанция страны принудила законодателей расставить точки над "i". Естественно, с учетом того, что по белорусской Конституции не могут иметь обратной силы законы, ухудшающие права людей.

**— Насколько известно, Конституционный суд рассматривал новый Жилищный кодекс еще до его подписания президентом. И никакого нарушения Конституции, никакого ущемления прав граждан не нашел...**

— Теперь суд может оценить правоприменительную сторону. Было бы желание решить проблему.

**— Вы делали оценку того, какое количество людей может пострадать в ходе этой кампании?**

— Точной информации мы добиться не можем. Но давайте вместе прикинем. С сентября прошлого года только в Первомайском районном суде Минска ежедневно рассматривается минимум четыре таких дела. 20 рабочих дней в месяц — это 80 дел. Семь месяцев — 540 дел. В Минске девять районов — значит, 4860 дел. Плюс к этому, к нам уже начали обращаться люди из регионов (к примеру, из Витебска и Гродно), то есть и туда эта кампания начинает доходить. Получается, мы уже сегодня имеем не менее десяти тысяч потенциальных бомжей, так как во многих таких квартирах живут и дети, и внуки. Причем с каждым днем кандидатов в бомжи становится больше, потому что иски на выселение идут в суды пачками. Это на самом деле страшно!

Скажу честно: я не могу понять, почему государство так поступает с людьми. Ведь злополучное жилье, которое сейчас отбирают, это, как правило, маленькие однокомнатные квартиры — бывшие колясочные, щитовые, с крохотными комнатами и малюсенькими кухнями. Государство на этом никак не разбогатеет. Во имя чего тогда так хладнокровно ломают жизни, судьбы людей?! Ведь для простого человека потерять даже такое убогое жилье — это трагедия...

У меня нет ответа. Но я точно знаю, что так нельзя! Даже собаку на улицу приличный человек не выбросит! А тут люди! И тем более удивительно, что органы прокуратуры спокойно взирают на происходящее.

**— Бунтов против выселения нет, акций самосожжения нет, так почему им не быть спокойными?**

— Пусть еще подождут, и все это будет. Мы, в Центре, уже не раз слышали: "Пойду повешусь" или "Мне некуда выселяться, лучше сброшусь с балкона" и тому подобное. Просто пока ситуация на стадии отфутболивания, кассационных рассмотрений, временных передышек в виде срочных договоров. И люди еще тешат себя надеждой. Но если дойдет до выселения, если перед человеком встанет реальный выбор, куда ему идти со своими пожитками — под забор или на тот свет, то я не сомневаюсь, что будут и самые страшные трагедии. Я общаюсь с этими людьми и вижу, что это уже та степень отчаяния, за которой для многих жизнь не имеет смысла.

**— И все-таки, что должен делать человек, оказавшись в такой ситуации?**

— Он должен бороться. Иногда к нам приходят женщины просто убитые, потерянные, отчаявшиеся — рыдают и только. Я таким всегда говорю: "Сидеть и плакать, конечно, можно, но это не поможет. Вы должны бороться, вы должны понимать, что никто за вас ничего не сделает". Надо не плакать, а объединяться, собирать подписи, бить в набат. И мне непонятно, почему другие правозащитники, профсоюзы, общественные организации, партии игнорируют эту проблему. Естественно, я против того, чтобы в нашей стране были политзаключенные, я всячески приветствую усилия по освобождению этих людей, но это неправильно — заниматься только политическими узниками. Сегодня десятки тысяч белорусов могут стать бомжами. Разве их не надо защищать?..

Однако на наше предложение о сотрудничестве откликнулась только инициатива "Говори правду!". И я очень рада, что здесь за политическими лозунгами все-таки видят проблемы простых людей. С "Говори правду!" мы договорились работать вместе, а значит, сможем сделать больше. При этом иллюзий быть не может: чтобы чего-то добиться, сами люди должны объединиться и бороться за свои права. И те, кого выселяют из квартир, и те, кого выселяют из общежитий (там пока ситуация менее острая, так как государству квартиры важнее и до общежитий еще просто не дошли руки, но и их в покое не оставят), должны перестать ждать у моря погоды и надеяться на чудо. Мы можем помогать, разъяснять, содействовать — это деятельность, которая прописана в уставе нашей организации. Однако без участия людей — тех, кого завтра могут вышвырнуть на улицу, — ситуацию никто не решит. Ну а если кому-то кажется, что все не так серьезно, что мы поднимаем эту проблему, потому что имеем какую-то заинтересованность, то могу сообщить: как раз таки лично у меня квартира есть, а вот вы имеете реальную перспективу остаться на улице.

**Беседовала Светлана КАЛИНКИНА.**

**КУДА ОБРАЩАТЬСЯ?**
**ОО "Центр по правам человека"**
**Телефон: +375-17-287-30-00**
**"Горячая линия" "Говори правду!"**
**Телефон: 8-044-576-94-31.**

## РЕАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ

### В Червенском районе суд принял решение о выселении на улицу матери семерых детей

В марте этого года Людмила Карканица, родившая и воспитавшая семерых детей, по решению суда должна была покинуть занимаемое жилье. Потому что дом в агрогородке, где жила женщина с несовершеннолетними детьми, является служебным.

В деревню Черноградь Червенского района семья Людмилы Карканица переселилась полтора года назад. Мужу предложили работу в местном хозяйстве и предоставили жилье. Правда, создавать обживаться в новом доме женщине пришлось одной. Глава семьи начал пить, а потом все бросил и уехал. В итоге мужчину лишили родительских прав, а Людмила осталась одна с двумя детьми-школьниками и двумя — студентами колледжа. Трое старших сыновей уже взрослые, живут и работают в Минске.

Суд принял решение о выселении многодетной матери на улицу вместе с детьми, несмотря на то, что идти ей просто некуда. И хотя формально в этой ситуации суд поступил по закону, так как женщина получала жилье уже после принятия 565-го указа, в дело вмешались органы опеки, которые подготовили ходатайство на имя председателя Червенского райисполкома с просьбой рассмотреть вопрос о сохранении за семьей имеющегося дома или предоставлении другого жилого помещения. Однако вмешательство органов опеки — это в подобных ситуациях не правило, а исключение.

## ОФИЦИАЛЬНО

### Статья 221 Жилищного кодекса Республики Беларусь

1.Настоящий Кодекс применяется к жилищным отношениям, возникшим после вступления его в силу. По жилищным отношениям, возникшим до вступления в силу настоящего Кодекса, он применяется к тем правам и обязанностям, которые возникли после вступления его в силу.

*Однако на жильцов общежитий и служебных квартир это правило почему-то не распространяется.*

ЗА РУЛЁМ

# Акцызы на паліва вырастуць у тры разы

## Колькі будзе каштаваць літр бензіну на АЗС?

Міністэрства фінансаў Беларусі выступіла з прапановай у 2,4—3 разы павысіць стаўкі акцызаў на аўтамабільнае паліва ў 2014 годзе. Павышэнне ставак плануецца ў два этапы: у першым паўгоддзі акцызы на бензін павінны ўзрасці на 45% у параўнанні з цяперашнімі, у другім — яшчэ на 65,5% (усяго ў 2,4 раза). Акцыз на дызпаліва павінен павысіцца на 70% у першым паўгоддзі і на 76,5% — у другім (усяго ў 3 разы).

Эксперты адзначаюць, што паступленні ад акцызаў на паліва ўносяць значны ўклад у даходы беларускага бюджэту. Простых грамадзян турбуе іншае: як павышэнне акцызных ставак адаб'ецца на кошце паліва на АЗС? Спецыялісты тлумачаць: у кошце тоны дызпаліва акцыз займае 14%, у кошце тоны бензінаў у залежнасці ад маркі — ад 16% да 24%. Напрыклад, на пачатку 2013 года стаўкі акцызаў на нафтапрадукты выраслі на 20%, кошты на аўтамабільнае паліва ў бягучым годзе былі павышаныя ў студзені на 4—6,7%.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

АФІЦЫЙНА

# Помнік Каліноўскаму — толькі пасля дазволу А.Лукашэнкі

*Ініцыятыўная група, якая збірала подпісы за ўсталяванне ў Мінску помніка нацыянальнаму герою Кастусю Каліноўскаму, атрымала адказ ад намесніка старшыні Мінскага гарвыканкама **Ігара Карпенкі.***

Чыноўнік патлумачыў, што ў адпаведнасці з заканадаўствам помнікі выбітным дзеячам усталёўваюцца на падставе заключэнняў Міністэрства культуры і пасля ўзгаднення з Аляксандрам Лукашэнкам ды вызначэння крыніц фінансавання.

Мінскі навукова-даследчы інстытут сацыяльна-эканамічных праблем распрацаваў навуковую канцэпцыю, у сувязі з якой у Мінску запланаваны да ўсталявання ў 2012—2017 гадах канкрэтныя творы манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва.

*"Гэтай канцэпцыяй не прадугледжана ўстаноўка ў Мінску помніка К.Каліноўскаму. Аднак, прымаючы да ўвагі неаднаразовыя звароты грамадзян па гэтым пытанні, інстытуту даручана даць заключэнне аб мэтазгоднасці ўсталявання такога помніка ў горадзе Мінску",* — напісаў Карпенка.

Зварот у гарвыканкам аб усталяванні помніка Каліноўскаму, пад якім падпісалася 4000 чалавек, быў накіраваны ў Мінгарвыканкам 9 ліпеня.

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# Як за адзін дзень абясцэніўся «залаты запас» Беларусі

Калійныя кампаніі свету ўжо згубілі 20 мільярдаў долараў. І адлік страт толькі пачынаецца, бо прагназуецца рэзкае падзенне коштаў мінеральных ўгнаенняў. І ўсё гэта — з-за "разводу" найбольш буйных гульцоў сусветнага рынку "Уралкалия" і "Беларуськалія".

Гандлюючы праз адзіную для дваіх вытворцаў кампанію, яны мелі магчымасць узгадняць аб'ёмы прадукцыі, якая пастаўляецца на знешні рынак, і трымаць цэны. Цяпер такая магчымасць страчана. Дык хто вінаваты?

— Не было ніякага сакрэту ў тым, што ў нас былі пэўныя праблемы з беларускімі партнёрамі, — патлумачыў газеце "Ведомости" гендырэктар "Уралкалия" **Уладзіслаў Баумгертнер**. — Адвадочным гэта стала на калійным рынку ў снежні мінулага года, калі выйшаў указ Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі аб тым, што "Беларуськалій" можа прадаваць прадукцыю не толькі праз "Беларускую калійную кампанію", але і праз незалежных трэйдараў. Фактычна так стваралася ўнутраная канкурэнцыя. Да пары, да часу гэта выглядала як ціск беларускага боку на расійскага партнёра з мэтай атрымання прэферэнцый у нашых унутраных дыскусіях, якія заўсёды былі, але нязменна насілі рабочы характар. З нейкага моманту рынак пачаў адчуваць, што за гэтым указам стаяць рэальныя дзеянні, якія беларускі бок збіраецца прадпрымаць. Магчыма, рэакцыяй на гэтыя дзеянні і стала нечаканае падпісанне Canpotex *(трэйдар канадскай Potash Corp., Амерыканскіх Mosaic і Agrium. —* **Рэд.**) дамовы з кітайскімі кампаніямі ў снежні 2012 года. Я не магу дакладна сказаць, але мяркую, што за гэтым ірацыянальным крокам стаялі асцярогі, што БКК на мяжы развалу, і таму Canpotex вырашыла дзейнічаць першай. Тады нам удалося ўтрымаць сітуацыю: акцыянеры сустракаліся з кіраўніцтвам краіны, менеджмент сустракаўся з прэм'ер-міністрам Міхаілам Мясніковічам, прадстаўнікамі ўладальніка "Беларуськалія" — канцэрна "Белнафтахім". Перамовы ішлі да апошняга моманту на ўсіх узроўнях: мы даносілі сваю думку аб тым, што БКК — унікальны праект, які заняў лідзіруючае становішча на рынку і дазволіў зарабіць вялікія грошы і для "Беларуськалія", і для "Уралкалия". Але, відаць, наша аргументацыя ўспрымалася ці як блеф, ці як пустыя словы. Увесь гэты час мы прасілі другі бок адмяніць гэты ўказ, каб даць ясны сігнал рынку аб тым, што мы па-ранейшаму разам і выступаем адзіным фронтам. На жаль, гэтага не адбылося. У чэрвені ў Беларусі працавала пагаджальная камісія, у рамках якой мы дамовіліся практычна па ўсіх пунктах, акрамя асноўнага — аб аднаўленні эксклюзіўнасці паставак праз БКК і адмене ўказа. Канчатковае рашэнне павінна было быць прынята на нарадзе ў прэзідэнта Беларусі, дзе кіраўнік камісіі Сяргей Румас павінен быў зрабіць адпаведны даклад. Нарада адбылося 22 ліпеня, але ўказ так і не быў адменены. Пасля гэтага мы ўбачылі, што на рынку з'яўляюцца пісьмовыя прапановы ад розных трэйдараў, якія гатовы пастаўляць тавар ад "Беларуськалія". І далей мы сталі перад выбарам: ці назіраць, як развальваецца БКК, ці пачаць дзейнічаць на апярэджанне...

**— Не пакідае адчуванне, што гэтая заява — першы ход у вялікай гульні. Што будзе далей?**

— Несумненна, мы ніколі не дзейнічаем па-апартуністку. Мы даўно ў гэтым бізнесе працуем, і ў нас ёсць доўгатэрміновая стратэгія — яна простая для разумення і, я лічу, вельмі эфектыўная. Раз правілы змяніліся, мы павінны знішчыць greenfield *(маюцца на ўвазе дробныя гульцы. —* **Рэд**.), павінны пацярпець і скараціцца вытворцы, якія не могуць працаваць з нізкім сабекоштам. Адначасова попыт павінен прастымулявацца і нізкімі цэнамі, і актыўным прасоўваннем збалансаванага выкарыстання ўгнаенняў. А пасля, відаць, зноў будзе кансалідацыя.

**— "Беларуськалій"?**

— Толькі ў выглядзе кансалідацыі трэйдзінгу, не больш за тое. Але не на базе БКК. У Беларусь мы не вернемся, але, калі гаворка пойдзе аб кансалідацыі з "Беларуськаліем" у іншай юрысдыкцыі, што дасць дадатковыя перавагі для таннага доўгатэрміновага фінансавання, то так, гэта магчыма.

У "Белнафтахіме", у сваю чаргу, заяўляюць, што шкадуюць аб дзеяннях расійскіх партнёраў і ацэньваюць рашэнне менеджменту "Уралкалия" як "вельмі непрафесійнае, якое мае перш за ўсё асабістыя інтарэсы ўладальнікаў прыватнай расійскай кампаніі ў шкоду інтарэсам усёй галіны".

Але, хто б ні быў вінаватым сітуацыя на дадзены момант такая: Беларусь мела высокаліквіднае прадпрыемства, акцыі якога ў любы момант магла прадаць для падтрымання беларускай эканомікі. Але гэты "залаты запас" значна абясцэнілі проста за дзень.

**Ігар МАРОЗАЎ.**



Народная Воля http://www.nv-online.info 6 ЖНІЎНЯ 2013 г.

ДАПАМОЖАМ!

# Гомельскі ўрач збірае грошы на дарагое лячэнне

***Малады медык з Гомеля Сяргей Малашанка атрымаў цяжкае захворванне, калі дапамагаў другім. І цяпер літаральна сам-насам застаўся са сваёю бядою.***



Сяргею Малашанку ўсяго 27 гадоў, але яго жыццё і здароўе пад пагрозай — ён даведаўся, што хворы на гепатыт С. Цяжкае захворванне, сцвярджае Сяргей, ён атрымаў падчас сваёй працы ў паліклініцы. Зараз для таго, каб змагацца з хваробай, урачу патрэбна дарагое лячэнне. Але ці можна дазволіць яго на заробак хірурга?

Малады чалавек распавёў "Народнай Волі", што ў яго ўжо атрымалася пачаць лячэнне. Падтрымалі калегі — сабралі каля 1800 долараў. Па месцы працы выпісалі матдапамогу. Але гэтага ўсё роўна не хапае, бо на ўвесь курс лячэння патрабуецца амаль 15 тысяч долараў. З 2009 года гепатыт С выключаны са спісу захворванняў, якія лечаць за кошт рэспубліканскага бюджэту.

Але сваю гісторыю Сяргей лепш распавядзе сам.

*"Плануючы з жонкай цяжарнасць, мы вырашылі з прафілактычнай мэтай здаць асноўныя аналізы ў красавіку 2013 года. У мяне аказаліся вельмі моцна павышаны пячоначныя ферменты — у 30 разоў вышэй за норму. Каб высветліць прычыну гэтага, былі зроблены іншыя аналізы. У выніку аказалася, што ў мяне хранічны гепатыт С.*

*Будучы ўрачом, я ўваходжу ў групу рызыкі па гепатыце С, таму перыядычна нам робяць аналіз на маркеры гепатытаў. Апошні раз у снежні 2011 года гэты аналіз быў адмоўным. Значыць, інфікаваўся я на працягу апошняга года, пасля пачатку працы ў паліклініцы. Гэты вірус перадаецца толькі праз кантакт з крывёю. Якіх-небудзь аперацый, наведванняў зубнога, пералівання крыві ў мяне не было. Таксама няма татуіровак, я не ўжываю наркотыкі. Гэта значыць, выключаны любыя спосабы заражэння, акрамя прафесійнай дзейнасці, бо ў працэсе работы пастаянна даводзіцца мець кантакт з крывёю, напрыклад, падчас апрацоўкі і ўшывання ран, выдалення спіц з костак і іншага.*

*У маім выпадку затрымліваць лячэнне вельмі небяспечна, бо гэта запаленне ў печані прыводзіць да развіцця фіброзу, цырозу і раку печані. Адзінае лячэнне, што пасуе да маёй формы захворвання і дае надзею пазбавіцца ад вірусу, — камбінаваная тэрапія пегеліраванымі інтэрферонамі і рыбавірынам на працягу 1 года.*

*Кошт прэпаратаў на 4 тыдні на 9 чэрвеня складаў каля 10.700.000 рублёў (каля 1230 долараў). Поўны курс абыдзецца ў 14.760 долараў.*

*У Беларусі гэтыя прэпараты не прадастаўляюцца дзяржавай бясплатна. А з маім заробкам каля 400 долараў купіць іх самастойна немагчыма.*

*11 чэрвеня я пачаў курс супрацьвіруснай тэрапіі. Спыняць лячэнне нельга, інакш яно не толькі не акажа эфекту, але і разаўе ў вірусу ўстойлівасць да гэтых прэпаратаў, што зробіць бессэнсоўным іх далейшае прымяненне. Таму вымушаны звярнуцца па дапамогу да неабыякавых людзей, бо асабістыя фінансавыя магчымасці не дазваляюць самастойна справіцца з гэтай праблемай".*

## ЯК ДАПАМАГЧЫ

**Дабрачынны рахунак**

Філіял 300/146 ААТ "Беларусбанк"

9004-Р/Дабрачынны рахунак **BYR 000010**

Прызначэнне плацяжу: на імя Малашанкі Сяргея Пятровіча на лячэнне Малашанкі Сяргея Пятровіча.

Філіял 300/146 ААТ "Беларусбанк"

9000-Р/Дабрачынны рахунак **USD 000029**

Прызначэнне плацяжу: на імя Малашанкі Сяргея Пятровіча на лячэнне Малашанкі Сяргея Пятровіча.

**Адрас для паштовых пераводаў:**

**246012, Гомель, Рэчыцкае шасэ, 149/73,** Малашанка Сяргей Пятровіч.

Іншыя магчымасці аказаць фінансавую дапамогу Сяргею Малашанку ўказаны на яго асабістым сайце malashenko.by.

МЕДСПРАВКА

# *На аборт после визита к психологу?*

*В Беларуси могут ввести доабортное психологическое консультирование и период ожидания от момента подачи заявления о намерении искусственно прервать беременность до момента проведения аборта. Это предусмотрено в проекте Закона "О здравоохранении".*

*"Организация психологического консультирования женщин будет способствовать снижению числа абортов и, как следствие, улучшению демографической ситуации в стране"*, — заявил председатель постоянной комиссии Палаты представителей по здравоохранению, физической культуре, семейной и молодежной политике **Александр Цецохо.** Он уточнил, что и сейчас существует так называемый доабортный период: как минимум женщине надо сдать анализы. В день обращения делают только вакуум-аспирацию в коммерческих учреждениях здравоохранения.

ТЕНДЕНЦИЯ

# *Чтобы не платить алименты...*

*Специалисты Могилевской службы медицинских судебных экспертиз говорят, что в последние месяцы народ массово кинулся устанавливать отцовство: если за три месяца прошлого года сделали 20 тестов, то за шесть месяцев этого — уже 80.*

Чаще экспертизу желают пройти мужчины, которые не были официально женаты и сомневаются в своем отцовстве.

*"К нам приходят самые разные люди: и благополучные, и не очень, и молодые, и пожилые,* — рассказала журналистам заведующая лабораторией службы медицинских судебных экспертиз по Могилевской области **Зинаида Ерощенко.** — *Их приходит все больше и больше, и прямо тут, у нас на диванчике, они прыгают от радости или плачут".*

Чтобы сделать тест, нужно отстоять очередь, независимо от того, по решению суда проводится экспертиза или в частном порядке. В назначенный день в лабораторию приходят всей семьей. Договор заключают с ответчиком, а образцы эпителия с обеих щек и кровь из пальца сдают и мама, и папа, и ребенок. Стоит экспертиза 1 миллион 880 тысяч рублей.

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Саша Варламаў не стаў абскарджваць прысуд

***Днямі ўступіла ў законную сілу рашэнне суда Ленінскага раёна Мінска ў дачыненні да былога дырэктара "Агенцтва моды і стылю Сашы Варламава".***



23 ліпеня суд прыгаварыў Варламава да пяці гадоў абмежавання волі з канфіскацыяй маёмасці без накіравання ва ўстановы адкрытага тыпу. Таксама былы дырэктар мадэльнай школы пазбаўлены права займаць пэўныя пасады тэрмінам на два гады. Акрамя таго, суд пастанавіў спагнаць з Варламава матэрыяльную шкоду на карысць шэрагу устаноў і грамадзян. Самы буйны — Беларускаму дзяржаўнаму ўніверсітэту — больш за 2,3 мільярда рублёў. З-пад варты Варламава вызвалілі ў зале суда, хоць яго і прызналі вінаватым у махлярстве ў асабліва буйным памеры, крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, прысваенні маёмасці і ўхіленні ад выплаты падаткаў. Разам з тым суд зняў з Варламава абвінавачванні ў злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі.

У тэрмін пакарання залічылі той час, што Варламаў правёў пад вартай, і такім чынам яму засталося толькі 8 месяцаў хатняй "хіміі". Мадэльер і яго адвакат вырашылі не абскарджваць рашэнне суда, і днямі прысуд уступіў у законную сілу.

Аляксандр Варламаў быў дырэктарам "Агенцтва моды Сашы Варламава", мастацкім кіраўніком цэнтра сучаснага стылю і моды Universum models упраўлення па справах культуры БДУ, намеснікам старшыні аргкамітэта фестывалю-конкурсу "Млын моды" і начальнікам Цэнтра маладзёжнай моды БДУ.

**Сяргей ШЭЛЕСТ.**

ДАЛЁКАЕ—БЛІЗКАЕ

*Сяргей НАВУМЧЫК*

# Дзевяноста першы






**У маі 1991 года дэпутатам ад БНФ удалося заблакіраваць спробу ўвядзення пасады прэзідэнта.**

**Фота Уладзіміра КАРМІЛКІНА.**

## «Масква забірае ў нас усё»

У ліпені мы з Галяй набылі турыстычную пуцёўку на дзесяць дзён у Крым (звярталіся па санаторную пуцёўку ў "лечкамісію" — адмысловую структуру, якая абслугоўвала высокапастаўленых чыноўнікаў і да якой "прымацавалі" дэпутатаў, я палічыў немагчымым). Жылі па адной-дзве ночы ў сціплых гатэлях і нават у інтэрнаце ("зручнасці на калідоры") — але адсутнасць зручнасцяў не бянтэжыла, успрымалі гэта як рамантычнае падарожжа. Якое можна было лічыць і вясельным, хоць пасля вяселля прайшло больш за год (вяселле ў нас супала з выбарчай кампаніяй). Па дарозе з Ялты ў Севастопаль каля Фароса экскурсавод прапанавала паглядзець у бок мора: "Зараз будзе дача Гарбачова!" На некалькі секунд у акне аўтобуса мільгануў чырвоны дах з круглымі акенцамі — мы яшчэ здзівіліся ягонай арыгінальнай канфігурацыі. Праз пару тыдняў будынак пад аранжавым дахам апынецца ў эпіцэнтры гістарычных падзей.

Яшчэ ў Крыму я прачытаў у газетах пра фарсіраванне прыняцця "саюзнай дамовы", а па вяртанні ў Мінск даведаўся, што справа зайшла далёка і што кіраўніцтва Вярхоўнага Савета цалкам пагадзілася з усім, што прапанаваў Крэмль.

Галоўным рэфлексам камуністычнага кіраўніцтва БССР была вернасць Маскве.

Загадаў Гарбачоў Дзямянцею прыняць фармальную Дэкларацыю аб суверэнітэце, у якой падкрэслівалася б неабходнасць існавання СССР, — той і выконваў (дэпутатам Апазіцыі БНФ вялізнымі высілкамі ўдалося правесці "незалежніцкія" палажэнні).

Загадаў Гарбачоў прымаць "саюзны дагавор", гэткую мадэрнізаваную форму імперыі, — Дзямянцей паслядоўна рупіўся пра гэта і, як на працу, ездзіў у Нова-Агарова, дзе Гарбачоў збіраў кіраўнікоў рэспублік (падрыхтоўка дамовы атрымала назву "новаагароўскі працэс").

Цяперашнім маладым альбо тым, хто ў той час слаба сачыў за палітычнымі падзеямі, сёння цяжка зразумець, як спалучаліся ў 1990—1991 гадах Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР і прынятае 12 чэрвеня 1991 г. рашэнне Вярхоўнага Савета БССР падпісаць новую саюзную дамову.

Справа ў тым, што камуністычнае кіраўніцтва Беларусі не хацела ніякай незалежнасці. Дэкларацыя для іх была не больш як фармальнасцю. Яны проста ўявіць не маглі, як гэта можна — жыць без Масквы. Апрача таго, нагадаю, падчас прыняцця Дэкларацыі камуністычная большасць адмовілася надаць ёй канстытуцыйную сілу (гэта значыць, прызнаць вяршэнства Канстытуцыі і законаў БССР над "саюзнымі") і прагаласавала за артыкул 11, які прадугледжваў "неадкладна прыступіць да распрацоўкі Дагавора аб саюзе суверэнных дзяржаў". Гэта было якраз тое, да чаго імкнуўся Крэмль і што Дзямянцей паслухмяна выконваў. Да таго ж ён заставаўся членам бюро ЦК КПБ і праводзіў рашэнні камуністычнага кіраўніцтва, якое пра незалежнасць і чуць не хацела.

І тут, падаецца, будзе цікавай ацэнка Дэкларацыі (у тым выглядзе, у якім яна існавала да 25 жніўня 1991 года), дадзеная Васілём Быкавым літаральна праз пару дзён пасля яе прыняцця, у ліпені 1990-га. Зрабіць гутарку з пісьменнікам мне прапанавала рэдакцыя штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва".

Падрыхтаваўшы праект Дэкларацыі і змагаючыся за кожнае слова, мы, дэпутаты БНФ, былі вымушаныя выйсці з Авальнай залы, абгрунтаваўшы гэта нежаданнем парламенцкай большасці надаваць Дэкларацыі канстытуцыйную сілу і імкненнем падпісаць Саюзную дамову, што перакрэслівала сэнс дакумента. Насамрэч гэта быў тактычны крок — такім чынам мы хацелі прымусіць камуністаў прагаласаваць за Дэкларацыю (шмат што яны рабілі насуперак Пазьняку).

Я нагадаў, што прыняцце Дэкларацыі віталі перад Домам урада некалькі сотняў чалавек — грамадства ж у сваёй масе паставілася да гэтага індыферэнтна, людзі тады былі заняты праблемай фізічнага выжывання.

"Мабыць, гэта яшчэ добра, калі дакумент такога роду можа каго-небудзь узрушваць. Значыцца, людзі не зусім зняверыліся, не зжылі ў сабе памкненне да ідэалу, — адказаў Васіль Уладзіміравіч. — Я адношуся да гэтай дэкларацыі спакойна. Прыняцце яе (або непрыняцце), па сутнасці, нічога не можа змяніць у жыцці рэспублікі, так што значэнне дэкларацыі чыста тэарэтычнае. Добра, канешне, што наш парламент намогся на такі крок, напэўна, архірадыкальны ў ягоных вачах. Але, мабыць, не трэба асаблівай палітычнай праніклівасці, каб вызначыць рэальную цану такога кроку".

"Дэкларацыя мае нямала сваіх аналагаў-папярэднікаў, выдатных ва ўсіх адносінах, складзеных з самых пафасных фраз, а часам і з найлепшых пажаданняў, — працягваў Васіль Уладзіміравіч. — Мабыць, каб дакументы такога роду адпавядалі свайму наміналу, патрэбны адпаведны палітычны ўзровень народнай свядомасці, выразна дэмакратычная воля яго кіраўніцтва. А тут якая воля, калі ў зале Вярхоўнага Савета, які прымаў дэкларацыю, панаваў амаль хаўтурны настрой, бо ўсё гэта рабілася супраць волі большасці, пры крайняй раздражнёнасці некаторых дэпутатаў з партгрупы. Левыя дэпутаты (*гэтак тады называлі дэпутатаў БНФ.* — **С.Н.**) самаадданa змагаліся за кожнае слова пры відавочнай пасіўнасці правых (*камуністаў.* — **С.Н.**), якія, аднак, адчувалі сваю сілу ў іншым — у галасавальнай працэдуры. Яна ўсё і вырашала. Можна было зразумець тых, хто пакінуў залу, калі сесія падышла да перадапошняга артыкула, які, па сутнасці, зрабіў малаэфектыўнымі (калі не зусім бескарыснымі) усе астатнія, нават самыя ўзнёслыя і рамантычныя, але пазбаўленыя сэнсу.

Напрыклад, што практычна азначае заключная частка артыкула 10 аб бяз'ядзернай зоне? Ці можа цяперашняе кіраўніцтва рэспублікі дамагчыся таго, не толькі ліквідаваць, а хоць бы зменшыць колькасць ракетных баз — на адну-дзве адзінкі? Хоць бы на тую, паблізу ад Мінска, якая кожнага дня пагражае сталіцы не меншымі вынікамі, чым Чарнобыль. Як цяпер, так і пасля заключэння саюзнага дагавору, гэтае пытанне будзе цалкам у кампетэнцыі Міністэрства абароны СССР, а не Вярхоўнага Савета БССР. Які ж тады практычны сэнс тае фразы, апроч як чыста прапагандысцкі?..

Так што рэальнага напаўнення гэтай звонкагалосай дэкларацыі няма ніякага, і цяжка меркаваць, каб з такім выразным, мякка кажучы, кансерватызмам КПБ і Савета ў яго магчыма будзе дасягнуць у бліжэйшым будучым... Відаць, ажыццяўляць суверэннасць магчыма толькі ва ўмовах суверэнітэту, — вось у чым парадокс часу".

Сёння тым, хто слаба знаёмы з тагачаснымі рэаліямі, такая ацэнка Быкавым Дэкларацыі аб суверэнітэце можа падацца нечаканай, але яна цалкам супадае з нашым, дэпутатаў БНФ, стаўленнем да яе ў той час: без канстытуцыйнай сілы яна не мела таго значэння, якое, напрыклад, для Літвы меў Акт аб аднаўленні незалежнасці, прыняты 11 сакавіка 1990 года.

Я не хачу сказаць, што значэнне дня 27 ліпеня 1990 года, калі прынялі Дэкларацыю, перабольшанае, — што да афіцыйнай прапаганды ў часы Лукашэнкі, яно, наадварот, недаацэненае, ды наогул гэта проста замоўчваецца. Аднак у параўнанні з 25 жніўня 1991 года, калі была абвешчана незалежнасць, прыняцце Дэкларацыі мела хутчэй сімвалічнае значэнне. А вось што было вельмі важна — гэтае тое, што мы прымусілі дэпутатаў-камуністаў вымавіць слова "суверэнітэт" і прагаласаваць за дэкларававанне суверэнітэту (хай нават і з агаворкай пра "саюзную дамову"). І пасля 27 ліпеня мы пастаянна спасылаліся на палажэнні Дэкларацыі — асабліва тады, калі трэба было схіліць дэпутацкую большасць да нейкіх радыкальных крокаў у справе стварэння незалежнай краіны (тут ім не было чым крыць — самі ж прагаласавалі за "суверэнітэт").

## Незалежнасць не «ўпала з неба»

Раз-пораз гучыць меркаванне, што беларусы не хацелі незалежнасці, што яна на іх "упала з неба".

Гісторыя сведчыць, што стагоддзямі беларускі народ змагаўся за незалежнасць — і ахвяраваў дзеля гэтага жыццямі сваіх найлепшых людзей. У ХХ стагоддзі Слуцкі збройны чын, што абараняў БНР, даў прыклад такога змагання — змагання не словам, а зброяй. А былі яшчэ дзясяткі тысяч, хто за ідэю вольнай ад Масквы Беларусі пайшоў у ГУЛАГ і ў Курапаты.

На шчасце, у 1990—1991 гадах мы маглі змагацца за незалежнасць без зброі.

А пра тое, што неабходнасць незалежнасці ўсьведамлялі не толькі трыццаць чалавек у парламенцкай Апазіцыі альбо трыццаць тысяч у Народным Фронце, сведчыць дакумент, які мне перадалі ў чэрвені 1991 года з Віцебска.

Гэта зварот у Вярхоўны Савет і Савет міністраў Беларусі сходу прадстаўнікоў віцебскіх прадпрыемстваў: станкабудаўнічага завода імя Кірава, тэлевізійнага завода "Віцязь", завода заточных станкоў імя ХХ з'езда КПСС, станкабудаўнічага завода імя Камінтэрна і вытворчага аб'яднання "Маналіт". Пяць найбуйнейшых прадпрыемстваў, на якіх працавалі дзясяткі тысяч чалавек (думаю, у Віцебску не было сям'і, у якой нехта з блізкіх не працаваў бы на адным з гэтых заводаў; так, у мяне на тэлевізійным — цётка і стрыечны брат). Ад кожнага прадпрыемства пад зваротам па тры подпісы — генеральнага дырэктара, старшыні прафкама і старшыні страйкама.

У звароце — вялікі пералік эканамічных і сацыяльных патрабаванняў, сярод якіх: усталяваць верхні ўзровень падатку на прыбытак 35 працэнтаў, скасаваць 5-працэнтны "гарбачоўскі" падатак, заканадаўча пацвердзіць скасаванне абмежавання базавага фонду аплаты працы, які прымаецца для налічэння фонду спажывання, і іншыя.

А завяршаецца зварот палітычнымі патрабаваннямі, першым з якіх — "надаць Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі канстытуцыйны характар".

Для дзясяткаў тысяч віцябчан, якіх рэпрэзентавалі падпісанты гэтага звароту, незалежнасць дакладна не "звалілася з неба".

Падобныя звароты атрымліваў кожны дэпутат Апазіцыі БНФ.

Перыяд 1990—1991 гадоў быў часам, калі, як кажуць, дзень ішоў за месяц (калі не за год), і дасягненне поўнай незалежнасці было не толькі мэтай, але і з кожным днём рабілася неадкладнай умовай развіцця Беларусі.

Літва, Латвія, Эстонія ўжо больш за год ішлі па шляху незалежнасці, імкліва стваралі ўласныя войскі, банкаўскія сістэмы, набывалі досвед самастойнай міжнароднай палітыкі — а мы, беларусы, гублялі час.

Але ўсе гэтыя месяцы мы, дэпутаты Апазіцыі БНФ, дамагаліся ад парламенцкай пракамуністычнай большасці надаць Дэкларацыі канстытуцыйны статус. Такое патрабаванне гучала і на вулічных мітынгах, і з парламенцкай трыбуны. Мы прапаноўвалі Вярхоўнаму Савету законы, якія забяспечвалі стварэнне дзяржаўных інстытуцый незалежнай дзяржавы і пераход да рынку — але яны не прымаліся. Праўда, некаторыя палажэнні — шляхам вялікіх намаганняў і ў Авальнай зале, і ў кулуарах — нам удавалася правесці.

Дэкларацыя аб суверэнітэце была, так бы мовіць, "замарожаная", але падзеі развіваліся імкліва і не на карысць незалежнасці. Хутчэй наадварот — на пачатку жніўня 1991 года актывізаваўся працэс падпісання так званай "новай саюзнай дамовы".

## Крэмль фарсіруе «саюзную дамову»

Спробы навязаць рэспублікам новую "саюзную дамову" Крэмль рабіў пачынаючы з лета 1990 года. Ужо ў лістападзе 1990-га Апазіцыя БНФ прапанавала Вярхоўнаму Савету наступную пазіцыю адносна "саюза":

— ініцыятыва стварэння Саюза Незалежных Дзяржаў павінна сыходзіць ад саміх гэтых дзяржаў як суверэнных суб'ектаў;

— працэс адбываецца паэтапна шляхам кансультацый паміж рэспублікамі і заключэння міжрэспубліканскіх дамоўленасцяў, у тым ліку і стварэння эканамічных садружнасцяў рэспублік;

— першай умовай павінна стаць прызнанне Вярхоўным Саветам і прэзідэнтам СССР Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР;

— перад пачаткам перамоў урад СССР павінен перадаць Беларусі яе долю ў агульнасаюзнай маёмасці, а таксама з алмазнага, валютнага фондаў і залатога запасу (права Беларусі на гэтую долю было зафіксавана ў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР).

Мы прапаноўвалі, акрамя іншага, неадкладна прыступіць да перамоў з рэспублікамі СССР і найперш з Расіяй аб заключэнні двухбаковых эканамічных ды іншых пагадненняў. А таксама прыступіць "да кансультацый з урадамі Эстоніі, Латвіі, Літвы, Украіны аб развіцці ўзаемадачыненняў, каардынацыі дзеянняў у галіне эканомікі, развіцці адносін у палітыцы і гуманітарным супрацоўніцтве дзяржаў Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна. Разгледзець магчымасць узаемадапамогі і эканамічнай садружнасці гэтых краін, стварэння міжпарламенцкай камісіі па выпрацоўцы эканамічнай дамовы".

Дэпутацкая камуністычная большасць адкінула нашы прапановы.

12 чэрвеня Вярхоўны Савет БССР, нягледзячы на наш, дэпутатаў Апазіцыі БНФ, супраціў, прыняў пастанову з даручэннем старшыні Мікалаю Дзямянцею падпісаць новую саюзную дамову.

На наступны дзень, 13 чэрвеня, Вярхоўны Савет пачаў разглядаць чарнобыльскае пытанне, і з вуснаў дэпутатаў-камуністаў гучалі словы адчаю, што, маўляў, мы апынуліся ў бядзе, ніхто нам не дапаможа, і толькі некаторыя асмельваліся кідаць рэплікі ў бок "саюзнага Цэнтра".

Камуністы разумелі, што "саюз" са сваім "цэнтрам" не дапаможа, — але галасавалі за гэты "саюз". З простай прычыны — нежаданне бачыць Беларусь незалежнай краінай.

Прагаласаваўшы за фарсіраванне "новай саюзнай дамовы", дэпутаты неўзабаве раз'ехаліся ў адпачынкі.

## Гарбачоў ператвараецца ў «нуль»

На пачатку жніўня 1991 года штотыднёвік "Літаратура і мастацтва" пісаў:

"Пакуль прэзідэнт СССР адпачывае на поўдні, у палітычным жыцці краіны адбываюцца істотныя змены. На першы план паступова выходзяць адносіны паміж рэспублікамі, інтарэсы Цэнтра пры гэтым адкрыта ігнаруюцца. Дня не праходзіць без паведамлення пра заключэнне "гістарычных" дамоў аб супрацоўніцтве між суверэннымі рэспублікамі. На гэтым тыдні іх падпісалі Казахстан і Кіргізстан, Туркменія і Таджыкістан, Літва і Арменія... У Ташкенце адбылася сустрэча прэзідэнтаў чатырох сярэднеазіяцкіх рэспублік з удзелам Азербайджана і Казахстана, але без удзелу Цэнтра. З'явілася і новая формула: 15+0 — у Алма-Аце плануецца сустрэча лідараў былых 15 саюзных рэспублік, зноў жа без удзелу Цэнтра... (*У тыя дні на слыху была формула Гарбачова "15+1", дзе пад "адзінкай" меўся на ўвазе Цэнтр, г.зн. Гарбачоў. Лідары рэспублік, як бачым, ператварылі яго ў "нуль".* — **С.Н.**) Яшчэ трохі — і чарговы адпачынак прэзідэнта можа ператварыцца ў заслужаны (*у савецкія часы выраз "заслужаны адпачынак" быў сінонімам пенсіі.* — **С.Н.**)...

Беларусь жа па-ранейшаму "свае надзеі звязвае з моцным Цэнтрам". Толькі так можна растлумачыць перанясенне тэрміну падпісання дамовы рэспублікай з 3 верасня на 20 жніўня, бо канчатковага тэксту дамовы яшчэ ніхто, вядома, акрамя яго аўтараў, не бачыў і не чытаў" (ЛіМ, жнівень 2011 г.).

У пастанове Вярхоўнага Савета, прынятай 12 чэрвеня, быў пункт трэці — "Даручыць камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па падрыхтоўцы праекта Саюзнага дагавору і вызначэнні парадку яго заключэння абагульніць прапановы і заўвагі пастаянных камісій Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, народных дэпутатаў, працоўных Беларускай ССР і ўлічваць іх у працэсе ўзгаднення канчатковай рэдакцыі праекта Саюзнага дагавору".

Фармулёўка цьмяная, бо адсутнічалі крытэрыі вызначэння "слушнасці" альбо "няслушнасці" прапаноў, якія камісія павінна была "абагульняць". Дый нерэальным выглядала абагульненне прапаноў камуністаў, якія выступалі за "адзіны саюз", з нашай пазіцыяй: ніякага новага "саюза", толькі незалежнасць.

Але нават члены камісіі Вярхоўнага Савета па падрыхтоўцы праекта Саюзнай дамовы даведаліся пра падпісанне з прэсы — 12 жніўня газета "Известия" паведаміла, што падпісанне Дамовы запланавана на 20 жніўня ў Маскве.

Пры гэтым ніхто з нас, дэпутатаў, канчатковага тэксту дамовы не бачыў.

Мы з Пазьняком вырашылі, што трэба рабіць нешта тэрміновае.

Але — што? Быў жнівень, дэпутаты ў адпачынку. Напісаць заяву ад Апазіцыі — паўгадзіны-гадзіна, але вось сабраць пад ёй подпісы, калі людзі не ў Мінску, — справа некалькіх дзён. Таму напісалі кароткі ліст Дзямянцею, пад якім падпісаліся тыя, хто быў у той дзень у Вярхоўным Савеце.

"Паважаны Старшыня Вярхоўнага Савета! — пісалі мы. — У сувязі з нечаканым паведамленнем газеты "Известия" 12 жніўня гэтага года аб тым, што "паўнамоцная дэлегацыя" БССР будзе падпісваць 20 жніўня Саюзны Дагавор, са змененым тэкстам якога не знаёмыя народныя дэпутаты БССР, і на Вярхоўным Савеце ён не абмяркоўваўся, заяўляем аб неправамернасці, безадказнасці Вашых дзеянняў. Вы імкняцеся заключыць дагавор пра лёс Беларусі без праходжання ўсіх неабходных у такіх выпадках экспертыз, абмеркаванняў і рашэнняў. Калі, нягледзячы ні на што, і такі дагавор будзе Вамі падпісаны, ён усё роўна не будзе мець юрыдычнай, прававой і палітычнай сілы, бо не можа быць прызнаны ні беларускім грамадствам, ні міжнароднай супольнасцю. Фактычна, размова ідзе аб падпісанні новага каланіяльнага для Беларусі дагавора. Крок, які Вы збіраецеся зрабіць, ставіць пытанні аб Вашай асабістай адказнасці перад Беларускім народам".

Ліст падпісалі пяць дэпутатаў — тыя, хто быў у той дзень у будынку Дому ўрада — Зянон Пазьняк, Уладзімір Заблоцкі, Сяргей Навумчык, Уладзімір Новік, Яўген Новікаў.

## Бальшавіцкая традыцыя: «Время, вперёд!»

У тыя самыя дні Выканкам Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады (БСДГ) зрабіў заяву, у якой выказаў стаўленне да падпісання саюзнай дамовы. "БСДГ у прынцыпе не выступае супраць Саюза Суверэнных Дзяржаў.

*(Працяг на 8-й стар.)*

ДАЛЁКАЕ—БЛІЗКАЕ

# Дзевяноста першы

(Працяг. Пачатак на 7-й стар.)

Ідэалам беларускай сацыял-дэмакратыі з'яўляецца садружнасць свабодных і роўных нацый, садружнасць дэмакратычных прававых дзяржаў", — гаварылася ў заяве.

Прызнацца, з таго часу я забыўся і цяпер з невялікім здзіўленнем адзначаю, што БСДГ не была супраць саюзнай дамовы ў прынцыпе. У БНФ у 1988-1989-х, нават на пачатку 1990 года часам таксама казалі пра магчымасць саюза суверэнных дзяржаў (акцэнт — на "суверэнных"). Што ж, не ўсе і не адразу прыйшлі да разумення неабходнасці існавання незалежнай дзяржавы і ў Беларускім Народным Фронце. Аднак ужо ў траўні 1990-га БНФ заявіў пра суверэнітэт як пра галоўную палітычную мэту, і ў першай палове 1991-га змаганне супраць ідэі новага "абноўленага саюза" было для нас часткай працэсу дасягнення незалежнасці.

Пры гэтым дэпутаты Алег Трусаў, Лявон Дзейка, Яўген Цумараў ды іншыя дэпутаты — члены БСДГ нароўні з усімі іншымі дэпутатамі Апазіцыі БНФ дамагаліся на сесіях надання Дэкларацыі канстытуцыйнага статусу.

Заява БСДГ была важнай для ацэнкі не толькі саюзнай дамовы, але і працэдуры яе падрыхтоўкі.

Выканкам Цэнтральнай Рады БСДГ звярнуў увагу на паспешлівасць, з якой рыхтуецца падпісанне. "Гэтая паспешлівасць цалкам адпавядае бальшавіцкай традыцыі прыспешваць падзеі і час". "Не запатрабаваўшы кампенсацыі за шкоду, спрычыненую Чарнобыльскай катастрофай, кіраўніцтва БССР пасля падпісання новага Дагавору страціць права прад'яўляць прэтэнзіі гэтак званаму цэнтру. Дапамогі ад іншых рэспублік, якія знаходзяцца ў цяжкім эканамічным становішчы, чакаць нельга". І далей: "...Падпісанне юрыдычна няўзважанага саюзнага дагавору не гарантуе грамадзянскага міру, не прывядзе да нармалізацыі адносін паміж паасобнымі рэспублікамі і цэнтрам, не спыніць міжнацыянальных канфліктаў. Захаванне цяперашняй структуры ўзброеных сіл СССР, якія прыцягваюцца для вырашэння міжэтнічных і міжнацыянальных сутычак, вядзе да таго, што Беларусь ізноў будзе губляць сваіх сыноў на гэтай неабвешчанай вайне..."

## Пра што расказаў генерал КДБ

Паспешлівасць Гарбачова зрабілася зразумелай пазней, калі прыадчыніліся некаторыя архівы. Улада выцякала з ягоных рук, яна ўжо не магла падмацоўвацца "эканамічным рэсурсам". Казна СССР была пустая. Гарбачоў стаяў перад Захадам з працягнутай рукой — і тут не было б вялікай бяды, калі б Гарбачоў прызнаў, што камуністычны эксперымент пацярпеў паразу. Але не — просячы грошай, ён працягваў прысягаць на вернасць "ідэям Леніна". І, між іншым, заставаўся генеральным сакратаром ЦК камуністычнай партыі. А ў ліпені 1991-га нават правёў пленум ЦК, на якім было вырашана ствараць новую (якую ўжо па ліку?) праграму гэтай самай партыі.

У кнізе "СССР. Канец праекта" былы супрацоўнік ЦК КПСС Мікалай Зяньковіч прыводзіць урывак са свайго дзённіка, які раскрывае некаторыя акалічнасці падрыхтоўкі варыянта саюзнай дамовы, якую планавалі падпісаць 20 жніўня:

"31 ліпеня. Кажуць, што ўчора і пазаўчора ў Нова-Агарове праходзіла неафішаваная сустрэча Гарбачова, Ельцына і Назарбаева, якія бяруць удзел у савецка-амерыканскіх перамовах. Нібыта дасягнутая дамоўленасць аб падпісанні Саюзнай дамовы не ў верасні-снежні, як меркавалася, а 20 жніўня... (Удакладненне 2009 года. Як стала вядома пазней, на гэтай сустрэчы Гарбачову было прапанавана правесці кардынальныя перастаноўкі ў найвышэйшым эшалоне ўлады. Замене падлягалі Лук'янаў (*старшыня Вярхоўнага Савета СССР.* — **С.Н.**), Янаеў (віцэ-прэзідэнт СССР), Паўлаў (прэм'ер-міністар СССР), Пуга (міністр унутраных спраў СССР), Кручкоў (старшыня КДБ СССР) ды іншыя. Размова, якая адбывалася на балконе рэзідэнцыі ў Нова-Агарове, была запісана КДБ і прадстаўлена Кручкову, які пазнаёміў з яе зместам іншых фігурантаў — будучых удзельнікаў ГКЧП.

Генерал КДБ Шыронін распавядаў мне ў прыватнай гутарцы, што менавіта гэтае рашэнне паскорыла набліжэнне жнівеньскага путчу. Бо праект Дамовы трымалі ў таямніцы не толькі ад грамадскасці, але і ад найвышэйшых службовых асоб дзяржавы" (Н.Зеньковч, "СССР. Конец проекта", Москва, 2009).

З гэтага запісу можна зрабіць дзве высновы.

Першая: не маюць рацыі тыя, хто кажа, што Беларусь атрымала незалежнасць дзякуючы Ельцыну — як бачым, Ельцын з Гарбачовым і Назарбаевым дамаўляўся пра перадзел улады, пры якім цэнтр, хаця і не з ранейшымі функцыямі, але заставаўся. Проста пазбаўляліся ад непажаданых людзей. Прадстаўніка Беларусі на гэтую размову нават не запрасілі.

І другая: "саюзная дамова", якая вызначала лёс народаў, рыхтавалася ўпотайкі — нават Вярхоўныя Саветы саюзных рэспублік не мелі яе тэксту.

## Уступіць — лёгка. Выйсці — немагчыма

Зрэшты, праз некалькі дзён пасля ліста да Дземянцея я, як і іншыя дэпутаты Вярхоўнага Савета, атрымаў ад яго тэкст новага варыянта "Саюзнай дамовы". СССР захоўваў абрэвіятуру, але мяняў назоў: пераўтвараўся ў "Саюз Савецкіх Суверэнных Рэспублік".

У "сферы вядзення Саюза ССР" былі войска, памежная служба, унутраныя, спецыяльныя, тэхнічныя войскі, каардынацыя дзейнасці органаў бяспекі рэспублік (натуральна, з Лубянкі). Таксама — "ажыццяўленне знешняй палітыкі", падпісанне міжнародных дамоў.

А яшчэ — знешнеэканамічная дзейнасць (куды ж без валютных даходаў?). Ну і — ажыццяўленне грашовай эмісіі (гэта значыць, агульныя грошы, і друкаваліся б яны не ў Менску ці ў Кіеве, а ў Маскве), залаты запас, алмазны і валютны фонды. Прыгадалася, што яшчэ ў дзень прыняцця Дэкларацыі 27 ліпеня 1990 года на сесіі Зянон Пазьняк так ацаніў самы першы праект саюзнай дамовы: "Масква плануе забраць сабе ўсё, а нам пакідае толькі Чарнобыль".

Тое самае можна было сказаць і пра апошні варыянт.

А вось яшчэ прыклад поўнага ігнаравання Гарбачовым і ягоным атачэннем (менавіта яны распрацоўвалі праект) прапаноў тых, хто, у прынцыпе, не выступаў супраць Саюзнай дамовы, як БНФ, але выказваўся за правы беларускага народа размаўляць на сваёй мове.

Увесну 1991 года Рада Таварыства беларускай мовы зрабіла адмысловую заяву з нагоды палажэння ў праекце Саюзнай дамовы аб прызнанні за расійскай моваЙ статусу афіцыйнай мовы СССР. Такое палажэнне супярэчыла Закону БССР аб мовах і Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР, таму Рада ТБМ прапанавала Вярхоўнаму Савету "не падпісваць Саюзны дагавор у той частцы, якая вызначае статус рускай мовы як афіцыйнай на тэрыторыі СССР". "Артыкул 20 праекта Саюзнага дагавора, — гаварылася ў заяве Рады ТБМ, — прапануем назваць "Дзяржаўныя мовы" і даць у наступнай рэдакцыі: "Моўныя ўзаемадачыненні дзяржаў-удзельніц Дагавору вызначаюцца адпаведнымі заканадаўчымі актамі — Законамі аб мовах".

14 траўня 1991 года гэтую прапанову ТБМ падтрымала і Рада Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Нарэшце, 31 мая старшыня парламенцкай камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч звяртаецца да Мікалая Дземянцея з заўвагай, што ў раздрукаваных для дэпутатаў папраўках прапанова Рады ТБМ адсутнічае. І паведамляе, што камісія, якую ён узначальвае, падтрымлівае прапанову Таварыства беларускай мовы і Саюза пісьменнікаў.

Аднак прапанова ўлічана не была. У праекце Дамовы, які меркавалася падпісаць 20 жніўня, артыкул 20 пазбавіўся палажэння пра рускую мову як "афіцыйную мову" СССР, прадугледжвалася нават, што "рэспублікі самастойна вызначаюць сваю дзяржаўную мову", — але канстатавалася, што "мовай міжнацыянальных зносін удзельнікі Дамовы прызнаюць расійскую мову".

Атрымаўшы тэкст дамовы, я адразу пачаў шукаць — ну а як жа Беларусь, падпісаўшы яе, зможа з гэтага "Саюза ССР" выйсці?

А ніяк.

Артыкул 1 "Членства ў Саюзе" нібыта прадугледжваў, што "дзяржавы, якія ўтвараюць Саюз, захоўваюць права свабоднага выхаду з яго ў парадку, вызначаным удзельнікамі Дамовы і замацаваным у Канстытуцыі і законах Саюза". Сам парадак у дамове не вызначаўся — тое было аддадзена канстытуцыі і законам, якія яшчэ трэба было ствараць (і невядома, хто і як бы іх прымаў). Затое артыкул 26 вызначаў, што "гэтая Дамова альбо асобныя палажэнні могуць быць скасаваны, зменены альбо дапоўнены толькі са згоды ўсіх дзяржаваў, якія ўтвараюць Саюз".

Такім чынам, паставіўшы подпіс пад дамовай, Беларусь патрапіла б у пастку: магчыма, давялося б прасіць дазволу на выхад у кіргізаў, таджыкаў, казахаў — народаў паважаных, якім, аднак, не да нашых праблем.

Але гэтыя б, можа, і пагадзіліся. А расійцы?

Тэкст гэтай "саюзнай дамовы" я знайшоў у пакеце ўрадавай пошты ў сваёй паштовай скрыні 18 жніўня.

На наступны дзень мы даведаліся, што ў Маскве пераварот.

(Працяг будзе.)

ЦІКАВА ВЕДАЦЬ...

## *А вы яшчэ выкідваеце шалупінне цыбулі?*

Не толькі сама рэпчатая цыбуля, але і яе шалупінне, аказваецца, вельмі карысныя для здароўя.

Навукоўцы высветлілі, што карычневае шалупінне і верхнія слаі цыбулі багатыя харчовымі валокнамі і флаваноідамі. Харчовыя валокны памяншаюць рызыку развіцця сардэчна-сасудзістых захворванняў, папярэджваюць парушэнні дзейнасці страўнікава-кішачнага тракту, рак кішэчніка, дыябет 2-га тыпу і атлусценне. Што ж датычыцца флаваноідаў, то даследчыкі прыйшлі да высновы, што галоўны кампанент шалупіння — кверцэтын — мае моцныя супрацьацёкавыя і супрацьзапаленчыя ўласцівасці, здымае спазмы.

Адвар з шалупіння цыбулі пазбавіць ад праблем са страўнікава-кішачным трактам, умацуе сценкі сасудаў, павысіць імунітэт. Можна проста заварыць шалупінне ў тэрмасе і прымаць па 1/3 шклянкі 2—3 разы на дзень. А калі такім адварам прапаласкаць валасы пасля мыцця, гэта ўмацуе іх карані і надасць шаўкавістасць.

Шалупінне цыбулі — гэта выдатны антысептык. Нездарма яйкі здаўна фарбуюць у шалупінні. Акрамя таго, што яны атрымліваюцца вельмі смачнымі, такая афарбоўка падаўжае тэрмін іх захоўвання.

НА ЗДАРОЎЕ!

## *Карыца дапаможа дыябетыкам*



Як высветлілі амерыканскія навукоўцы, у карыцы ёсць вельмі карысная якасць — яна здольная зніжаць узровень цукру ў крыві. Таму медыкі рэкамендуюць людзям, якія пакутуюць на дыябет, дадаваць карыцу ў ежу. Вельмі карысная карыца для людзей з дыябетам другога тыпу, бо людзі, якія пакутуюць на гэтае захворванне, маюць устойлівасць да інсуліну.

Таксама даследаванні паказалі, што карыца зніжае ўзровень халестэрыну ў крыві, але медыкі не раяць есці выпечку, салодкія стравы, запраўленыя карыцай. Яе лепш дадаваць у свой звычайны рацыён, і паловы чайнай лыжкі ў суткі будзе дастаткова.

Карыцай запраўляюць самыя розныя стравы. Адразу адчуваецца грэчаскі ўплыў, калі бараніну запраўляюць карыцай, а гарнір робяць з тушанай зялёнай фасолі або цукіні. Ва ўсходняй кулінарыі карыцу дадаюць да страў з птушкі, а ў Кітаі карыцай запраўляюць свініну. У рускай кухні рэзкай карыцай запраўляюць малочныя супы, кашы, аладкі, марынаваную рыбу. Але неабходна памятаць пры гатаванні страў, што пры доўгай цеплавой апрацоўцы можна сапсаваць смак стравы, бо карыца набывае горкі прысмак. Карыцу лепш дадаваць у канцы гатавання.

ПУТЕВОДИТЕЛЬ

# Где лучше покупать подержанный автомобиль?

***В поисках недорогих автомобилей белорусы по-прежнему предпочитают ездить в Литву. Оправдано ли это? Может, стоит обратить внимание на Россию: и ехать близко, и растамаживать не нужно? Сайт infobank.by решил сравнить цены на популярные у белорусов иномарки.***







Начнем, пожалуй, с такой известной марки, как BMW, популярной в народе "тройки" с автоматом 2009 года выпуска. Заходим на auto.plius.lt и находим бензиновую версию с автоматом, но без кожи и навигации, за 11.700 евро. Прибавим к этому расходы на дорогу и растаможку автомобиля с объемом двигателя 1995 см³. Получаем 17.586 евро, или же 23.038 долларов, за "пустую" машину!

Похожий вариант в России был найден на сайте cars.auto.ru. Правда, комплектация была гораздо богаче: тут и кожаный салон, и хром-пакет, и ксенон. А стоит все это удовольствие 20.309 долларов. Т.е мы еще прилично сэкономим, да и на визу тратиться не придется.

Популярная **"Mazda 6"** 2009 г.в. в Литве продается за 8700 евро. За эти деньги предлагается автомобиль с автоматической коробкой передач, бензиновым двигателем и модного черного цвета. Считая стоимость с растаможкой мотора объемом 1999 см³ и доставкой, получаем 14.600 евро, или 19.100 долларов.

А что у наших соседей по СНГ? Те же два литра, автоматическая коробка и востребованный цвет стоят всего 16.976 долларов. Правда, за машиной придется съездить чуть дальше Москвы, в Череповец.

Конкурент BMW третьей серии — **Audi A4** с двухлитровым бензиновым двигателем и автоматической коробкой передач в Литве продается за 10.861 евро. С растаможкой и доставкой этот автомобиль потянет на 16.671 евро, или 21.956 долларов.

В России за такой же автомобиль просят 22.840 долларов. Что ж, высокая цена объясняется популярностью данной модели на просторах федерации. А возможность сэкономить 1000 долларов может, конечно, сподвигнуть на вояж за границу.

Еще одна популярная модель **Skoda Superb**. Найти в Литве такую машину не битую и не крашенную с проходным мотором — сложно. Двигатели объемом 1,8 и 2,0 литра расходятся как горячие пирожки, но все же удалось найти в интернете черный Superb с 1,8-литровым бензиновым двигателем.

За него продавец просил 12.704 евро. С учетом доставки и таможни конечная сумма авто в Беларуси выросла до 18.000 евро, или 23.580 долларов.

В России же **Skoda Superb** со схожими характеристиками и того же года стоит 22.069 долларов. Если учесть высокую популярность Skoda Superb у нас в стране и хорошо поторговаться, машину можно будет даже выгодно перепродать, поездив на ней один сезон.

Таким образом, высокие таможенные ставки потихоньку делают свое дело. Иномарки в России становятся гораздо дешевле (за небольшим исключением) автомобилей, предлагаемых в Литве.

Также надо учитывать, что большинство наиболее популярных иномарок собираются в России. И в стенах завода их оснащают специальными пакетами для зимы и местных дорог. Также при поездке в РФ не нужно беспокоиться о визе и языковом барьере.

Виктор, который 5 лет занимается продажей автомобилей, рассказал нам:

*— Высокие таможенные пошлины сделали практически невыгодной покупку автомобилей в Литве и Германии. Поэтому смотреть приходится только в сторону битых машин, на них цены значительно ниже, и можно что-то заработать на продаже.*

*Целые автомобили сейчас никто не возит, а если они и всплывают на рынке, то цены на них неконкурентоспособные.*

*Покупка автомобиля в России не всегда предпочтительна. Новые машины в салоне — да, стоят дешевле, чем в Беларуси, и в их приобретении есть смысл. А вот к "бэушкам" слишком много вопросов.*

*Начнем хотя бы с состояния российских дорог — если машина не из Москвы, а из регионов, то вопросов по подвеске будет много.*

*Дальше пробег — на 95% он традиционно скручен, причем в отмотке россияне меры не знают. На востребованных автомобилях, таких как BMW или "Мерседес" 2008—2009 г.в., стоят пробеги по 45.000—60.000 тыс. километров, это откровенное вранье. По салону во многих случаях видно, что автомобили прошли не одну сотню тысяч километров. Много "уставших" машин и транспорта с криминальным прошлым. При наличии денег и связей поставить на учет в РФ можно машину с любым криминальным прошлым. По приезде в Беларусь после проверки нашими правоохранителями такой машины можно лишиться.*

З НАТУРЫ

## *Шпак-халасцяк*

Вясна сёлета была хоць і позняя, але цёплая. З выраю ў родныя мясціны вярталіся шпакі, іншыя птушкі. Каля майго дачнага дома іх ужо чакалі тры новыя шпакоўні, у якія засяліліся сямейныя пары. Ранкам яны абуджалі наваколле вясёлымі спевамі, вялі "рамонт" жылля.

Толькі ў адной шпакоўні я прыкмеціў адзінокага шпака. Ён, як і яго суродзічы-суседзі, даваў штодзень сольны "канцэрт", нібы запрашаючы ў госці сяброўку, бо былая спадарожніца, напэўна, загінула пры пералёце. Час ішоў, а шпак-халасцяк заставаўся адзін, не мог знайсці сабе пару. Праўда, асобныя жаночыя асобіны прыляталі на агледзіны жылля, але хутка пакідалі шпачыны дамок, бо штосьці ім не спадабалася, хаця гаспадар-халасцяк зрабіў усё: наносіў свежай саломы, мяккай леташняй травы, пер'я для гнязда.

Праз некаторы час у суседніх шпакоўнях загаманілі жаўтаротыя птушаняты. А дамок шпака-халасцяка так і пуставаў усё лета, і толькі на наступны год у ім справіла наваселле новая сямейная пара.

**Анатоль ШАРАЕЎ.**

*г.Фаніпаль.*

ГРЫБНАЯ ПАРА



Лясы за вёскай Талька Пухавіцкага раёна багатыя грыбамі.

**Фота Дзмітрыя БАГАТКІ.**

ШАХМАТЫ

## Задача В.Сычова



**Белые:** Кре8, Фf2, Ла6, Cb7, Ce1, Kd6, Kh2, пп. d5, f6, g3 (10).

**Черные:** Кре5, Фg6, Kd2, пп. d7, f7, g7 (6).

**Мат в 2 хода.**

Владимир Петрович Сычов увлекся шахматной композицией еще в 1950-е годы. За почти полувековую творческую деятельность опубликовал около 500 задач разных жанров. Более 200 из них отмечены на конкурсах, в том числе более 50 — призами. Многие задачи Сычова включены в "Альбом ФИДЕ". Сычов — победитель многих чемпионатов Беларуси, дважды чемпион СССР в командном зачете. В 1984 году ему было присвоено звание мастера спорта СССР, в 1976 году — звание международного арбитра.

По специальности Владимир Петрович мастер-строитель. За многолетний труд награжден двумя грамотами Верховного Совета БССР, грамотами и дипломами Спорткомитетов СССР и Беларуси. Задача, которую мы предлагаем вниманию читателей, была отмечена первым призом в конкурсе. Попробуйте найти ее решение. Свои ответы присылайте по адресу: **220030 Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты "Народная Воля", "Шахматы".**

## С участием Анатолия Карпова

Выдающийся шахматист, двенадцатый в истории шахмат чемпион мира, победитель более 100 международных турниров Анатолий Карпов последние годы практически перестал выступать в турнирах. Причин немало. Во-первых, возраст — Карпову уже 62 года. Затем загруженность в многочисленных сферах деятельности. Депутат российской Госдумы, председатель Фонда мира и так далее. Для шахмат оставалось мало времени. Но играть-то хочется! И прославленный чемпион откликнулся на предложение принять участие в 1-м Международном фестивале SBERBANK OPEN. Соревнования прошли в Киеве. В программе были три турнира: "А" — для супергроссмейстеров, "В" — детский, "С" — для сотрудников Группы Сбербанк России.

В супертурнире "А" играли 10 элитных гроссмейстеров: Сергей Карякин, Евгений Томашевский (Россия), экс-чемпион мира Веселин Топалов (Болгария), Петер Леко (Венгрия), чемпион Беларуси Сергей Жигалко, украинцы Павел Эльянов, Александр Арещенко, Антон Коробов и Аркадий Найдич (Германия). Но главным событием стало участие в турнире Анатолия Карпова, именно оно вызвало наибольший интерес. Турнир проводился по быстрым шахматам. На обдумывание ходов отводилось по 25 минут на партию + 10 секунд за каждый сделанный ход.

В напряженной борьбе победителем стал Сергей Карякин, набравший 6,5 очка из 9. На пол-очка отстал Веселин Топалов. Отличный результат показал минчанин Сергей Жигалко. Набрав 5 очков, он разделил 3—4-е места с участником матча за звание чемпиона мира Петером Леко.

На последующих местах: 5—7.Павел Эльянов, Евгений Томашевский, Антон Коробов — по 4,5, 8.Александр Арещенко — 4. Анатолий Карпов финишировал девятым с 3 очками. А замкнул турнирную таблицу Аркадий Найдич — 2 очка.

## Мемориал Г.Вересова

В Минске на спортивной базе ДЮСШОР №11 прошел традиционный турнир памяти первого белорусского международного мастера Гавриила Вересова. В нем приняли участие 64 спортсмена. Соревнования проводились по швейцарской системе в 9 туров. Победителями стали кандидаты в мастера Александр Давидчик, Сергей Сарычев и международный мастер Валерий Смирнов, набравшие по 7 очков из 9. Уженщин лучшей была гомельчанка Анастасия Андрухович.

ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

## *Такіх карункаў вы яшчэ не бачылі*



Часта можна пачуць, што ў Беларусі немагчыма набыць ніякіх цікавых сувеніраў: альбо коні з саломы, альбо лялькі з ільну — падарункі, мякка кажучы, на аматара. Між тым з нашай краіны можна прывезці не проста цікавыя, а сапраўды ўнікальныя рэчы. Толькі мала хто пра гэта ведае.

Вось толькі адзін прыклад — гомельская, ці сожская, скань. Сапраўдныя карункі з дрэва. Тое, чым Беларусь можа ганарыцца!

Гэтае рамяство вядомае на беларускіх землях з XV стагоддзя. Выкарыстоўвалася для аздаблення абразоў, куфэркаў, скарбонак, драўлянага посуду. Адметнасць скані заключаецца ў стварэнні філігранных узораў з надзвычай тонкіх стружак розных гатункаў драўніны. Але старажытная тэхніка была забыта. І толькі ў 1990 годзе за яе адраджэнне ўзяўся Уладзімір Цакуноў, гомельскі майстар па дрэве. Таму трэцяя назва гэтай унікальнай тэхнікі — "цакуноўка". Уладзімір Валянцінавіч памёр у 2008 годзе, але яго мастацтва жыве ў творчасці вучняў і паслядоўнікаў. Творы Уладзіміра Цакунова, выкананыя ў гэтай тэхніцы, ёсць у калекцыях многіх вядомых і ўплывовых людзей — ад палітыкаў да дзеячаў культуры, працы яго вучня Вячаслава Цэслі — нават у каралевы Англіі Лізаветы II, у папярэдняга Папы Рымскага Бенедзікта XVI.



Гомельская скань — унікальная з'ява. Адзіная ў свеце школа — беларуская. Ад некаторых работ проста захоплівае дух. І пры гэтым проста трэба ведаць, дзе шукаць гэты цуд, зробленыя рукамі. У Мінску, напрыклад, гэта галерэя рамёстваў у Траецкім прадмесці.

**Алена ДАВЫДАВА.**

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

ISSN 2071-9647

Падпісныя індэксы: 63222, 632222

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 5.08.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26410 экз. Заказ №3398.